КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 23 (344) ◂ 14 чэрвеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**«ШПІЁНСКІ РАМАН» АНДРЭЯ ГАЙДУКОВА**

Стар. 5

**ЛУКАШЭНКА РЫХТУЕ АДСТАЎКУ ЎРАДА?**

Апошнім часам беларускі ўрад традыцыйна трапляе пад раздачу. Не паспелі міністры адысці ад разносу з нагоды дрэннай працы будаўнічай галіны, як апынуліся вінаватымі ў зніжэнні экспарту і складскіх запасах

Стар. 4

**ЦІ ПЕРАМОГУЦЬ ПІНГВІНЫ ЭРДАГАНА?**

Эрдаган сеў за стол перамоваў. Але ці пойдзе ён у адстаўку? Пра падзеі ў Турцыі і прычыны пратэста журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з турэцкім сацыяльным актывістам Сінгурам Саўранам

Стар. 11

**ЯЎГЕН ЗАК І ЯГО ПАРЫЖСКАЯ ГАЛЕРЭЯ**

Стар. 15

ISSN 2218-2144

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

**ВЫ ЯШЧЭ МОЖАЦЕ ПАСПЕЦЬ АФОРМІЦЬ ПАДПІСКУ НА II ПАЎГОДДЗЕ**

З НАГОДЫ

# ЗАБІЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІКА

Сяргей ПУЛЬША

**Лукашэнка збіраўся паціснуць руку апошняму прадпрымальніку яшчэ ў 2005 годзе. Але вынішчыць прадпрымальніцтва на нацыянальным узроўні не ўдалося. Зараз гэта спрабуюць зрабіць на ўзроўні міждзяржаўным.**

З 1 ліпеня ўводзяцца новыя правілы тэхнічнага рэгламенту Мытнага саюза. Яны могуць прывесці да таго, што да 90% прадпрымальнікаў Беларусі, сапраўды, альбо спыняць сваю дзейнасць, альбо пачнуць масава парушаць закон.

Тэхрэгламент патрабуе наяўнасці сертыфікату бяспекі вызначанага стандарту Мытнага саюза. Для атрымання сертыфікату бяспекі з партыі тавару трэба аддаць на экспертызу пяць адзінак тавару. Дзве адзінкі будуць знішчаныя падчас правядзення экспертызы. Тры могуць быць вернутыя. За гэтую экспертызу і атрыманне сертыфікату трэба заплаціць 1 мільён 200 тысяч рублёў. І так — на кожную партыю тавару.

Прычым гэта тычыцца не толькі тавараў, завезеных з краінаў, якія не з'яўляюцца сябрамі Мытнага саюза. Калі ІП закупляе тавар, напрыклад, у Расіі, то з таварам атрымлівае адпаведны сертыфікат якасці РФ. А дома, у Беларусі, расійскі сертыфікат усё роўна неабходна пацвердзіць. Больш за тое, тыя ІП, хто гандлюе айчыннай прадукцыяй, напрыклад, «Мілавіцы», закупляючы тавар на прадпрыемстве, усё роўна павінны правесці яго сертыфікацыю! Гэта ўжо мяжуе з маразмам.

Прадпрымальнікі выступілі рэзка супраць тэхрэгламенту. У іх невялічкія партыі тавару — па 5–10 штук. Калі з партыі ў пяць штук пасля экспертызы застанецца тры, то, зразумела, што ў іх вартасць будуць дададзеныя і кошт сертыфікацыі, і кошт двух страчаных падчас экспертызы экземпляраў. Што, зразумела, прывядзе да рэзкага падаражання прадукцыі.

З іншага боку, вазіць дробныя партыі тавару становіцца нявыгадна. І з партыі ў 10 штук, і з партыі ў 100 штук аддаваць на экспертызу ўсё роўна трэба пяць адзінак. Для прадпрымальніка выгадней закупіць буйную партыю, чым маленькую. Але гэта вядзе да звужэння асартыменту і прывядзе да таго, што, напрыклад, паненкі альбо будуць шыць сабе сукенкі самі, альбо хадзіць «аднолькавыя».

Было б зразумела, калі б гэта рабілася для падтрымкі айчыннай лёгкай прамысловасці. Маўляў, «прышчэмім чаўнакоў», тады людзі будуць бегчы ў крамы «купляць беларускае». Але ж і гэта выклікае сумнеў. Па-першае, людзі хутчэй пабягуць з краіны на рынкі Украіны, Літвы да Польшчы, каб купіць больш якаснае і больш таннае (вывозячы тым самым валюту за мяжу). А па-другое, калі на беларускія тавары таксама патрэбен сертыфікат тэхрэгламенту, то такая «падтрымка» бессэнсоўная, бо найперш страчвае беларускі легпрам — сваіх «добраахвотных дылераў» у рэгіёнах, дзе фірмовую краму не адкрыеш.




Індывідуальныя прадпрымальнікі ў роспачы. З аднаго боку, яны не могуць працаваць па новых правілах. Сябра арганізацыйнай групы па стварэнні прадпрымальніцкага прафсаюза Віцебска Ірына Яскевіч падлічыла: каб захаваць мінімальны асартымент на гандлёвай кропцы ў шэсць квадратных метраў, за афармленне сертыфікатаў неабходна выплаціць каля 60 мільёнаў рублёў. А ёсць яшчэ падаткі, заробак гандлярам, арэнда гандлёвай плошчы… Быць ІП-гандляром становіцца надзвычай дарога. З іншага боку, ІП не згодныя страчваць свой статус, заробак і ісці на біржу працы. Бо яны разумеюць, што дзяржава, забраўшы ў іх працу, не здолее іх ані нармальна працаўладкаваць, ані заплаціць нармальную дапамогу па беспрацоўі.

Прадпрымальнікі кажуць, што яны не супраць сертыфікацыі. Яны не супраць таго, каб тавар у іх быў якасны. Яны самі не зацікаўленыя прадаваць няякасны тавар, бо тады пакупнік да іх не вернецца. Але ж тэхрэгламент не павінен забіваць прадпрымальніка.

Выйсце, паводле меркавання актывістаў прадпрымальніцкага руху, у тым, каб, па-першае, у краінах Мытнага саюза ўзаемна прызнаваліся сертыфікаты якасці, і, напрыклад, расійскі сертыфікат не трэба было б спраўджваць дадатковай экспертызай у Беларусі. Што тычыцца сертыфікацыі з «трэціх краін», то ІП згодныя з ёй, калі яна будзе праводзіцца ў выглядзе гігіенічнай экспертызы. І па-другое, каб сертыфікат аб адпаведнасці тэхрэгламенту Мытнага саюза павінны былі рабіць не прадпрымальнікі, а вытворцы прадукцыі. Сапраўды, прадпрымальнік жа не адказвае за якасць тавару, які не ён вырабляў?

ІП кажуць пра гэта з канца 2012 года, калі тэхрэгламент адзін раз ужо павінен быў быць уведзены. Тады ІПшнікі дамагліся адтэрміноўкі ў паўгады. Але за паўгады ўлада не зрабіла ані кроку ў вырашэнні гэтай праблемы. Жаданне паціснуць руку апошняму прадпрымальніку пераважвае ўсе меркантыльныя разлікі.

Пакуль што адзіны спадзеў у ІП на тое, што, па словах эканаміста Льва Марголіна, «цяжкасць закона кампенсуецца ягоным слабым выкананнем». Што з 1 ліпеня ніхто сертыфікаты тэхрэгламенту правяраць не будзе. Бо адсутнасць тэхрэгламенту дазваляе трактаваць тавар як кантрафактны, канфіскоўваць яго і штрафаваць прадпрымальнікаў на суму да 50 мільёнаў рублёў.

Але ў выніку дзяржава атрымае не штрафы, а дэфіцыт бюджэту. Па словах лідара прадпрымальніцкага руху Мінска Алеся Макаева, з 1 ліпеня ІП могуць «вымушана спыніць сваю дзейнасць без выплаты сродкаў у бюджэт». То бок, гэта будзе своеасаблівы страйк. Лідар прадпрымальніцкага грамадскага аб'яднання «Перспектыва» Анатоль Шумчанка таксама папярэджвае: ІП гатовыя сысці ў вымушаныя адпачынкі, а таксама спыніць выплату падаткаў.

6 чэрвеня, дарэчы, папераджальны страйк ужо прайшоў у Віцебску: не працавалі восем рынкаў і гандлёвых цэнтраў. 1 ліпеня сітуацыя можа паўтарыцца па ўсёй краіне.

Але і Шумчанка, і Макаеў не выключаюць, што ў самым горшым выпадку, калі ўлада і пасля гэтага не адрэагуе на патрабаванні прадпрымальнікаў, не толькі магчымыя, а нават і верагодныя вулічныя пратэсты ІП. «У нас дастаткова сілаў, магчымасцяў і арганізаванасці, каб абараніць свае правы і інтарэсы», — заявіў Шумчанка.

# ФАКТЫ, ПАДЗЕІ, ЛЮДЗІ



## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### БРЭСТ: МЕРКАВАННІ ВЫБАРШЧЫКАЎ НАКОНТ МАЛОГА ПАМЕЖНАГА РУХУ ЗНОЎ ПРАІГНАРАВАНЫЯ

Дэпутат Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Віктар Валюшыцкі даслаў адказаў брэсцкім актывістам кампаніі «Гавары Праўду!»

Прадстаўнікі грамадскасці ставілі перад дэпутатам пытанне, чаму народныя абраннікі праігнаравалі зварот грамадзян па пытанні малога памежнага руху, а менавіта — чаму гэтая праблема не была агучаная падчас штогадовага паслання прэзідэнта РБ Аляксандра Лукашэнкі беларускаму народу ў красавіку 2013 года, а таксама чаму не былі данесеныя асноўныя найбольш вострыя і важныя пытанні да кіраўніка дзяржавы, з якімі грамадзяне звярталіся да дэпутата.

Віктар Валюшыцкі ў сваім лісце адзначыў, што зварот грамадзян па пытанні малога памежнага руху Польшчы і Беларусі не пакінуты без увагі і накіраваны ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь, які, згодна з Канстытуцыяй, упаўнаважаны вырашаць пытанні міждзяржаўнага ўрэгулявання, і ўзяты дэпутатамі на кантроль.

Народны абраннік звярнуў увагу, што зварот да прэзідэнта краіны немэтазгодны, бо па дадзенай тэме ім раней быў агучаны адказ падчас прэс-канферэнцыі 15 красавіка 2013 карэспандэнту Польскага агенцтва друку (PAP) Малгажаце Выжкоўскай. Аляксандр Лукашэнка лічыць, што рэалізацыя малога прыгранічнага руху магчымая толькі пры нармалізацыі дружалюбных адносінаў паміж Беларуссю і Польшчай.

— Адказы на пытанні дадзены не па сутнасці, — падзяліўся меркаваннем актывіст кампаніі «Гавары Праўду!» Уладзімір Вуек. — Лічым, што меркаванні выбаршчыкаў былі чарговы раз праігнараваныя.

### МАГІЛЁЎ: АЛЕГ АКСЁНАЎ СКАРДЗІЦЦА НА ДЗЕЙНАСЦЬ КДБ У СУД

Алег Аксёнаў падаў скаргу на незаконную дзейнасць упраўлення КДБ па Магілёўскай вобласці ў суд Ленінскага раёна Магілёва.

Праз суд актывіст аркамітэта партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» хоча адмяніць вынесенае яму папярэджанне КДБ, а таксама прызнаць незаконнай і неабгрунтаванай праведзеную з ім супрацоўнікам спецслужбы прафілактычную размову.

Таксама Алег Аксёнаў хоча абавязаць начальніка УКДБ па Магілёўскай вобласці прынесці яму пісьмовыя прабачэнні, а супрацоўніка УКДБ Махунова — вусныя за іх незаконныя дзеянні.

Нагадаем, 29 красавіка супрацоўнік КДБ Махуноў выклікаў па позве ў будынак КДБ Алега Аксёнава для прафілактычнай размовы. Падчас размовы Махуноў паведаміў, што актывісту вынесена папярэджанне нібыта за дзейнасць ад імя незарэгістраванай партыі — аргкамітэта «Беларускай хрысціянскай дэмакратыі», а таксама за ўдзел у дзейнасці двух незарэгістраваных у вызначаным парадку арганізацый — грамадзянскай кампаніі «За справядлівыя выбары–2012» і Магілёўскай рэгіянальнай кааліцыі дэмакратычных сіл.

У якасці доказаў супрацоўнік КДБ Махуноў прадставіў раздрукоўкі з незалежных сайтаў, дзе ўзгадвалася імя і прозвішча актывіста.

### ШЧУЧЫН: 82-ГАДОВУЮ ПЕНСІЯНЕРКУ БУДУЦЬ СУДЗІЦЬ ЗА КРЫЖ

Шчучынская міліцыя склала пратакол пра адміністрацыйнае правапарушэнне, якое нібыта здзейсніла пенсіянерка Вераніка Себасцьяновіч, сябра незарэгістраванага ўладамі Саюзу палякаў Беларусі.

82-гадовай жанчыне праз пошту быў высланы ліст з копіяй пратакола пра адміністрацыйнае правапарушэнне — правядзенне несанкцыянаванага мітынгу.

Себасьцяновіч у траўні была адной з удзельніц усталявання памятнага крыжа на хутары ў Рачкаўшчыне, што непадалёк Бакштаў (Шчучынскі раён) у памяць жаўнера Арміі Краёвай Анатоля Радзівоніка, які быў забіты супрацоўнікамі НКУС. Крыж усталёўваўся на прыватнай тэрыторыі. Чаму менавіта пенсіянерка была прызначана арганізатаркай акцыі ўшанавання памяці, зразумець цяжка. Справа накіравана ў Шчучынскі раённы суд, і калі адбудзецца яе разгляд, пакуль невядома.

### ЖЛОБІН: ПАЧАЎСЯ ПЕРАГЛЯД СПРАВЫ СЯБРА «СПРАВЯДЛІВАГА СВЕТУ»

У Жлобінскім раённым судзе адбылося дваццаць другое па ліку судовае пасяджэнне па справе сябра партыі «Справядлівы свет» Яўгена Басарэўскага.

У якасці сведак у суд былі выкліканыя чыноўнікі са Жлобінскага раённага выканаўчага камітэта, а таксама раённага Савета дэпутатаў. Сведкі нічога новага не сказалі суду — пасяджэнне, па сутнасці, стала звычайным працягам ужо амаль трохгадовай эпапеі. Суддзя Алена Ярмольчык зрабіла перапынак да 10 ліпеня.

«Не разумею, для чаго трэба выклікаць сведак па некалькі разоў і чуць адны і тыя ж паказанні кожны раз, — кажа Яўген Іванавіч. — Відавочна, што мая справа, якая пайшла па другім крузе, будзе расцягвацца да апошняга».

Нагадаем, 7 снежня 2012 года суддзя Жлобінскага раённага суда Іна Шаршнёва прызначыла Яўгену Басарэўсакму пакаранне ў выглядзе трох гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай на два гады, ягоны былой калезе Валянціне Касцюкевіч — чатырох гадоў абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову з частковым скасаваннем тэрміну на 1 год. Яны абвінавачваюцца ў злоўжыванні ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Абодва абскардзілі прысуд у Гомельскім абласным судзе, які накіраваў справы на паўторны разгляд.

**Па інфармацыі spring96.org**

## КРУГЛЫ СТОЛ

# БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА: БАЯЗДОЛЬНАСЦЬ НА НУЛІ

*Сяргей ПУЛЬША*

**У новым офісе кампаніі «Гавары праўду!» у Мінску прайшоў першы тэматычны «круглы стол» у межах кампаніі «Народны рэферэндум». Згодна з канцэптам, менавіта насельніцтва павінна выпрацаваць тыя пытанні, якія мусяць быць пастаўленыя на ўсенародны разгляд.**

Гэтым разам пытанні распрабавалі выпрацаваць не палітычныя актывісты, а вайскоўцы. Лідар «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў патлумачыў гэта тым, што армія ёсць найважнейшай часткай беларускага грамадства, і ўвогуле «народ і армія — адзіныя».

Але перш маёр запасу Сяргей Вазняк, які быў вядоўцам дыскусіі, прапанаваў абмеркаваць праблемы беларускага войска. «Я размаўляў са сваімі папленчнікамі, якія засталіся ў войску. З гэтых размоваў я бачу, што беларускае войска не гатовае да сучаснай вайны. Сучасная, высокатэхналагічная ці высокадакладная вайна прад'яўляе зусім іншыя патрабаванні да салдата. Да гэтага мы не гатовыя», — адзначыў ён.

Але, як высветлілася, беларуская армія, па меркаванні некаторых ваенных, не гатовая не тое да высокатэхналагічнай вайны — не гатовая да вайны ўвогуле. Найперш, яна не гатовая да яе маральна-псіхалагічна.

Палкоўнік Мікалай Петрушэнка вельмі каротка зрабіў аналіз ваенна-палітычнай сітуацыі ў свеце. На ягоную думку, ваенная небяспека для Беларусі існуе. Наколькі яна верагодная і з якога «тэатру ваенных дзеянняў» небяспека вызначыцца, зараз цяжка сказаць, але выключаць такое развіццё падзеяў нельга.

У гэтым рэчышчы галоўным становіцца пытанне аб «унутраных сацыяльна-палітычных фактарах, якія не спрыяюць яднанню нацыі і народа, дзяржавы і грамадства». Таму, як заявіў Петрушэнка, Беларусь з'ўляецца вельмі слабай у ваенным плане.

Няўжо палітыка так уплывае на войска? «У Мінску завяршыўся вясновы прызыў у войска. Прызвана ў войска тысяча навабранцаў. У той жа час да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці за ўхіленне ад вайсковай службы прыцягваецца 250 чалавек. Выснова: вайны яшчэ няма, а ўжо кожны чацвёрты патэнцыйны салдат — дэзерцір», — сказаў Петрушэнка.

«Абараназдольнасць краіны ніякая. Падцягваць сюды расійскую вайсковую базу і ставіць на дзяжурства комплексы С–300 і С–400 — я б нават паўмерамі гэта не назваў. Здаваць жа ў выніку самастойнасць дзяржавы такім чынам, — гэта я лічу здрадай радзіме», — заявіў палкоўнік асобага аддзелу Анатоль Юрэвіч.

Нізкі маральны дух пануе не толькі сярод навабранцаў, але і сярод кадравых афіцэраў, распавёў капітан Аляксей Кавалец. Ён не пагадзіўся з тым, што нас хтосьці збіраецца захопліваць, таму што і без усялякіх войскаў у нас працягваецца інкарпарацыя ў Расійскую Федэрацыю. З-за гэтага беларускія вайскоўцы проста распубленыя. «Па-першае, невядома ў сувязі з гэтым, хто патэнцыйныя калабарацыяністы. Гэта апазіцыя — «пятая калона», ці гэта ўлада — «пятая калона». Невядома, каго расстрэльваць у выпадку чаго», — сказаў Кавалец.

Генерал Валер Фралоў адзначыў, што крытычны стан беларускай эканомікі адбіваецца на войску. «Палякі закупілі 128 танкаў «Леапард», яшчэ 128 плануюць закупіць. Прынята рашэнне стварыць нацыянальную сістэму супрацьракетнай абароны. Польскі Сейм на 10 гадоў прыняў бюджэт для войска — 45 мільярдаў долараў, тры поўных бюджэты Беларусі. А ў нас лішніх грошаў няма», — кажа Фралоў.

Такім чынам, праблема беларускага войска палягае наўпрост у палітычнай сферы. Нізкі ўзровень вайсковай гатоўнасці забяспечваецца нестабільнай геапалітычнай сітуацыяй — мы ўвесь час гайдаемся на геапалітычных арэлях ад Расіі да Еўрасаюза, нікому канчаткова не аддаючы перавагу. Адсутнасць палітычных свабодаў, адсутнасць магчымасці самарэалізацыі ў Беларусі прыводзяць да таго, што моладзь не толькі з'язджае з краіны, але і не жадае яе абараняць.

Карацей, мадэрнізацыі патрабуе не войска, а краіна ў цэлым. Таму афіцэры вырашылі проста адкласці далей вайсковае пытанне на рэферэндуме і абмяркоўвалі агульнанацыянальныя прапановы: напрыклад, магчымасць пастаноўкі пытання пра скасаванне вынікаў рэферэндуму 2004 года, які дазваляе Лукашэнку балатавацца ў прэзідэнты колькі заўгодна разоў. Абмяркоўваліся пытанні рэформы эканомікі і палітычнай сферы.

І гэта слушна, бо армія павінна, найперш, абараняць народ. Таму і ўзялася за народныя пытанні.

## ДАСЛЕДАВАННЕ

# ТБМ ЗБІРАЕ ЎЗОРЫ ПОЧЫРКАЎ

*Марат ГАРАВЫ*

**Таварыства беларускай мовы дапамагае прадстаўніку французскай навукова-вытворчай кампаніі Vision Objects SA Ліліяну Савану збіраць узоры почыркаў жыхароў Беларусі.**

На працягу 11 чэрвеня ў сталічную сядзібу ТБМ прыходзілі актывісты грамадскага аб'яднання розных узростаў і лічбавай асадкай з убудаванай відэакамерай вытворчасці шведскай кампаніі Anoto Group AB запаўнялі па-беларуску адмысловыя індывідуальныя анкеты з літарамі, лічбамі, знакамі, словамі і сказамі. Пры гэтым відэакамера фіксуе ў сваёй памяці ўсе рухі рукі, дзеля далейшай апрацоўкі сабраных узораў почыркаў і іх распазнавання французскімі спецыялістамі.

Гэты адукацыйны праект, запачаткаваны нямецкім навукоўцам Штэфанам Кнэрам у 1998 годзе, накіраваны на інтэграцыю розных моваў свету, у тым ліку і беларускай, у праграмы для мабільных электронных прыладаў, якія распазнаюць почырк. Такія праграмы дазваляюць эканоміць час: не набіраць на клавіятуры тэксты, а пісаць іх адмысловай асадкай ці нават пальцам на экране мабільнай прылады — планшэта, смартфона, навігатара. Пры гэтым напісанае аўтаматычна трансфармуецца ў стандартны электронны тэкст, які ў далейшым можна раздрукаваць і памножыць. Такі падыход падобны да праграмы распазнавання голасу, толькі замест яго выкарыстоўваецца почырк чалавека.

Як адзначыў Ліліян Саван, спецыялісты кампаніі працуюць з носьбітамі розных моваў свету і іх дыялектаў, каб інтэграваць іх у праграмы для мабільных прыладаў. Зараз Саван кіруе праектам, які займаецца рэдкімі мовамі, у тым ліку беларускай, армянскай, грузінскай і мангольскай. «Я ведаю, што ў Беларусі ў мабільных прыладах выкарыстоўваюцца руская і англійская мовы. Верагодней за ўсё, гэта адбываецца таму, што беларуская мова проста не інтэграваная ў праграмы для мабільных прыладаў», — сказаў французскі спецыяліст.

Ён плануе за тры дні сабраць не менш за 200 запоўненых анкет, каб мець дастатковую колькасць узораў почыркаў беларусаў дзеля далейшай інтэграцыі беларускай мовы ў праграмы для распазнавання почырку.

Акрамя таго, кампанія Vision Objects працуе над распазнаваннем аб'ектаў.

На думку старшыні ТБМ Алега Трусава, праца французскіх спецыялістаў дазволіць захаваць у электронным выглядзе і перадаць нашчадкам узоры рукапіснага пісьма, што вельмі важна, бо «і мовы знікаюць, і людзі цяпер усё менш ад рукі пішуць, усё больш на камп'утары».

А намесніца старшыні ТБМ Алена Анісім лічыць, што дзякуючы французскаму праекту беларуская мова будзе не толькі знаходзіцца ў базе дадзеных еўрапейскіх моваў, але і знойдзе вывастане ў сучасных лічбавых тэхналогіях.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# АЛЮЗІІ НА АДПАЧЫНАК

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Адпачываць трэба не толькі грамадзянам, але і кіраўнікам краіны. Зараз, калі верыць навінам за апошні тыдзень, для гэтага створаныя альбо ствараюцца ўсе ўмовы. Варта толькі мець магчымасць гэтымі ўмовамі скарыстацца.**

Аляксандр Лукашэнка ў апошні час шчыра працаваў. Ён некалькі разоў даваў выспятку для разгону ўраду і асобным міністэрствам. Бачыць перад сабой кожны дзень адны і тыя ж твары, але мець з імі размову на розныя тэмы, ды яшчэ і пераконвацца, што з першага разу цябе не зразумелі, — пагадзіцеся, нялёгкая задача. Таму ён мае поўнае права на адпачынак і станоўчыя эмоцыі. І ён-такі іх атрымае.

Як паведаміў украінскім тэлеканалам намеснік кіраўніка МЗС Беларусі Аляксандр Міхневіч, Лукашэнка прыедзе да Віктара Януковіча з афіцыйным візітам 18 чэрвеня. «Афіцыйна яны не сустракаліся каля трох гадоў, хоць неафіцыйныя сустрэчы адбываліся рэгулярна. Назапасілася шмат бягучых станоўчых пытанняў», — запэўніў Міхневіч украінскіх тэлегледачоў.

«Станоўчае пытанне» — гэта новае слова ў беларускай дыпламатыі. Здаецца мне, што такім можа быць толькі пытанне: «Ты мяне паважаеш, так?». Але Міхневіч потым расшыфраваў: «Мы не проста прадаём і купляем, мы ствараем сумесныя прадпрыемствы. Мы актыўна запрашаем украінскі бізнэс у Беларусь — у фармацэўтыку, у энергетыку... Вось на гэтыя тэмы, якія маюць перашкоды на гэтым шляху, пагаворыць прэзідэнты, каб іх ліквідаваць», — сказаў Міхневіч.

Канешне, мы актыўна запрашаем украінскі бізнэс у «сінявокую». Каб у гэтым ніхто не меў сумневаў, напярэдадні візіту прэзідэнта беларускія ўлады прызналіся, што блакавалі імпарт кандытарскіх вырабаў у краіну — не толькі з боку Украіны, але і з іншых краін. Нібыта, знакамітыя цукеркі «Рашэн» і розныя «марсы» і «снікерсы» — дрэннай якасці.

«У сувязі з паступаючымі сігналамі пра не вельмі якасную прадукцыю быў пашыраны кантроль на нашай мяжы, што прыводзіла часам да затрымак паставак кандытарскіх вырабаў. Затрымкі былі практычна па ўсім перыметры Беларусі. Гэта было і з Расіяй, і з іншымі краінамі", — заявіў у Кіеве той жа Міхневіч.

Па яго словах, прэтэнзіі па якасці ўзніклі з-за адсутнасці ў Беларусі і краінпастаўшчыкоў адзіных тэхнічных рэгламентаў. «Вось калі б мы ў СНД вырашылі гэтае пытанне, то праблем гэтых не ўзнікала б», — марыць Міхневіч.

Адзінае, пра што Міхневіч не сказаў: адкуль паступіў сігнал пра не вельмі якасную прадукцыю. Калі гэта ведае Міхневіч, то, пэўна, гэты сігнал дайшоў аж да МЗС. Такія моцныя сігналы ў нас падае толькі Адміністрацыя прэзідэнта. Тым больш, што свае шакаладкі няма куды падзець пасля таго, як былі нацыяналізаваныя «Спартак» і «Камунарка». Замежныя рынкі пасля нацыяналізацыі мы страцілі, а свае, беларусы, нягоднікі, купляюць «Рашэн».

Парадавала адпускнікоў і чыгунка. Зараз у чэргах па білеты на поўдзень душыцца, канешне, давядзецца, але крыху меней. Згодна паведамленню БелЖД, у Мінску арганізавана работа 45 білетных касаў. Гэта на 9 касаў больш, чым працавала ў летні сезон мінулага года. Адкрыты дадатковыя касы на прыпыначным пункце Інстытут культуры, у зале падвышанай камфортнасці «Клуб СВ» на чыгуначным вакзале, на вул. Варанянскага, 6, а таксама пяць дадатковых касаў на вул. Бабруйская, 4.

Толькі не паведамляецца, колькі касаў было зачынена напярэдадні лета. Прынамсі, на праспекце Незалежнасці касы зніклі дакладна.

Акрамя таго, Беларуская чыгунка развівае сучасныя тэхналогіі продажу праязных дакументаў і заклікае пасажыраў больш актыўна карыстацца магчымасцю набыцця білетаў праз інтэрнэт і плацёжна-даведачныя тэрміналы самаабслугоўвання, устаноўленыя на вакзалах у Мінску і Віцебску.

Але ў жаданні адпачыць нармальна і падалей ад радзімы нашым суграмадзянам не перашкода не тое што чарга ў касе, а нават тэракты і ўлфлікты. Прыкладам, асацыяцыя ўладароў гатэляў Турцыі б'е трывогу: з-за неспакойнай абстаноўкі ў краіне турысты сталі адмаўляцца ад броні нумароў у гатэлях. Толькі ў Стамбуле працэнт па адмовах даходзіць да 70. Існуе небяспека, што і ў курортных гарадах можа скласціся такая ж сітуацыя. Канешне, звязана ўсё гэта з масавымі пратэстамі ў Турцыі. Сутыкненні рознага кшталту дэманстрантаў з паліцыяй у буйных гарадах Турцыі працягваюцца.

Але што нашым? Нашы ўжо перажылі путч 1991-га, некаторыя — расстрэл Белага дому ў Маскве з пушак 1993-га, масавыя пратэсты супраць палітыкі ўлады 1996–1998 у Мінску, а ўжо колькі было «плошчаў» ды «маўклівых акцый»! Таму пратэсты ў Турцыі, па назіранні буйнейшых тураператараў — для беларусаў дзіцячы лепет. Беларускія турысты без асцярогі ляцяць на турэцкія пляжы, а калі адмовы ёсць, то гэтыя выпадкі адзінкавыя.

«Попыт на пуцёўкі ў Турцыі цяпер зменшыўся. Але гэта звязана з тым, што ў гэтым годзе людзі вельмі рана вызначыліся са сваімі адпачынкамі. Заяўкі на летні адпачынак сталі паступаць яшчэ ў студзені-лютым. Звычайна паўза па продажах надыходзіць у канцы ліпеня. Але ў гэтым годзе ўсе здарылася раней. Зараз турыстам хочацца купіць пуцёўку танней і лепей, а ўсё лепшае ўжо раскуплена падчас ранняга браніравання», — распавялі «Камсамольскай праўдзе» ў адной з буйных мінскіх турыстычных кампаній.

Дарэчы, у фірме таксама паведамілі, што праводзяць дадатковы інструктаж турыстаў у сувязі з падзеямі ў Турцыі. Але гэты інструктаж зводзіцца да падпісання адной паперы. «Выйшла дадатковая інструкцыя Мінспорту і турызму. Мы знаёмім з ёй турыстаў, а яны яе падпісваюць. Там гаворыцца, напрыклад, пра тое, што зараз не рэкамендуецца ездзіць на экскурсію ў Стамбул і самастойна наведваць буйныя гарады. Але гэтая інструкцыя носіць рэкамендацыйны характар», — кажуць у кампаніі.

Сапраўды, калі мы бачылі на вуліцах танкі, ці спалохаемся мы вадамётаў?

А хто паспрабуе нас зачапіць, атрымае па шапцы, нягледзячы на ўсю беларускую «талерантнасць» і «памяркоўнасць». Беларусь у 2013 годзе заняла 96-е месца з 162 у рэйтынгу Глабальнага індэкса міралюбнасці, апублікаваным Інстытутам эканомікі і міру (IEP). У 2012 годзе краіна займала 109-е месца. Так што мы, канешне, сталі больш міралюбнымі, але ў выпадку чаго — хату спалім.



## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### АЛЯКСАНДР СУРЫКАЎ

Амбасадар Расіі ў Беларусі Аляксандр Сурыкаў, як заўсёды, гранічна шчыры з прэсай. Да таго, што яго пасаду трэба проста перайменаваць у «рупар Крамля», — як Сурыкаў кажа, так звычайна і здараецца.

У Сурыкава на тыдні было дзве навіны: добрая і дрэнная. Дрэнная навіна: ён у чарговы раз пацвердзіў пазіцыю Расіі аб прадастаўленні крэдытаў толькі сумесным прадпрыемствам. «А вось прости: «Дайце нам на мадэрнізацыю», каб, умоўна, беларуская фабрыка была больш канкурэнтнай у параўнанні з расійскай — хто ж дае грошы на вырошчванне канкурэнтаў?» — сказаў Сурыкаў.

У сувязі з гэтым ён выказаў надзею, што восенню будуць падпісаныя дакументы па стварэнні холдынгу «Расбелаўта» на базе МАЗа і КАМАЗа з парытэтным удзелам бакоў. Ён удакладніў, што на першым этапе размова ідзе аб стварэнні канкурэнтнай вытворчасці, а не аб абмене або продажы актываў.

Добрая ж навіна ў тым, што Расія можа ўлічыць пажаданні беларускага боку і паставіць Беларусі ў 3-м квартале 5,75 мільёна тон нафты, зыходзячы з гадавога балансу ў 23 мільёны тон. «Паколькі зараз асаблівых выклікаў на нафтавым рынку няма, дэфіцыту ці яшчэ чагосьці, рашэнне будзе на карысць беларускага боку», — не выключыў пасол РФ у Мінску.



### АНДРЭЙ МІХНЕВІЧ

Беларускі штурхальнік ядра Андрэй Міхневіч дыскваліфікаваны пажыццёва за ўжыванне забароненых прэпаратаў. Так вырашыла Дысцыплінарная камісія Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва.

Як паведаміў галоўны трэнер зборнай Беларусі па лёгкай атлетыцы Аляксандр Трашчыла, рашэнне аб дыскваліфікацыі Міхневіча пажыццёва было прынята яшчэ 20 мая па факце паўторнага парушэння Міхневічам антыдопінгавых правілаў. Упершыню Міхневіч папаўся на допінгу ў 2001 годзе, і быў пакараны двухгадовай дыскваліфікацыяй. Як вядома, па новых правілах допінг-пробы прызёраў, узятыя на топ-турнірах, захоўваюцца на працягу 8 гадоў і могуць быць перапраўераныя з прымяненнем новых методык. Менавіта такая працэдура стала для Андрэя фатальнай. У яго пробе, узятай на чэмпіянаце свету 2005 года ў Хельсінкі, выяўлены забаронены прэпарат. Паколькі парушэнне паўторнае, у адпаведнасці з антыдопінгавымі правіламі прынята рашэнне аб пажыццёвым адлучэнні Міхневіча ад вялікага спорту. Аднак рашэнне НАДА яшчэ павінна быць зацверджана Міжнароднай федэрацыяй лёгкай атлетыкі.

Сам Міхневіч — чэмпіён свету 2003 і бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў 2008 года ў Пекіне сцвярджае, што ніякіх проб на допінг-кантроль падчас ЧС–2005 у Хельсінкі папросту не здаваў. А яго просьба аб адкрыцці пробы з правядзеннем тэсту ДНК была папросту праігнараваная.



### КІРЫЛ РУДЫ

Кірыл Руды, былы намеснік гендырэктара беларуска-кітайскага прадпрыемства «Бел Хуавэй Тэхналаджыс», раптам стаў памочнікам прэзідэнта па эканоміцы. На гэтую пасаду ён прызначаны 10 чэрвеня.

Што здзіўляе — гэта тое, што ў камандзе Лукашэнкі з'явіўся малады эканаміст, спецыяліст і рынчачнік. Пэўна, ён будзе адзіным прафесіяналам у камандзе. Да яго гэтую пасаду займалі адыёзны Сяргей Ткачоў, які сышоў у «Амкадор», і пенсіянер Пятро Пракаповіч, які зараз віцэ-прэм'ер.

Рудому — 35 гадоў. Нягледзячы на маладосць, ён ужо зрабіў выдатную навуковую кар'еру. Кандыдатам навук стаў ужо ў 23 гады, а доктарам — у 33. Навуковыя зацікаўленасці Рудога — фінансы, крэдыты, фінансавыя крызісы. Аўтар некалькіх навучальных дапаможнікаў.

Кірыл Руды быў стыпендыятам праграмы Фулбрайта, якая фінансуецца ўрадам ЗША, і накіраваная на правядзенне навукова-даследчай работы ў адным з універсітэтаў Амерыкі. На працягу чатырох месяцаў стажыраваўся ў Чыкага і працаваў там над «планам фінансавай стабілізацыі краін СНД».

Некалькі апошніх гадоў Кірыл Руды працаваў эканамічным дарадцам у пасольстве Беларусі ў Кітаі.

Вядома, што менавіта ён вёў перамовы з кітайскім Дзяржбанкам аб супрацоўніцтве з Беларуссю.

Паболей бы Лукашэнку такіх памочнікаў. Галоўнае, каб яго не затапталі ўсялякія пенсіянеры.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЛУКАШЭНКА РЫХТУЕ АДСТАЎКУ ЎРАДА?

Сяргей ПУЛЬША

**Апошнім часам беларускі ўрад традыцыйна трапляе пад раздачу. Не паспелі міністры адысці ад разносу, які ўчыніў ім Рыгоравіч з нагоды дрэннай працы будаўнічай галіны, як апынуліся вінаватымі ў зніжэнні экспарту і складскіх запасах.**



Спачатку кіраўнік дзяржавы выказаў непаразуменне спробамі ўрада зваліць зніжэнне экспарту на ўступленне Расіі ў сусветную гандлёвую арганізацыю. Заўважыўшы, што ў нас экспарт у Расію і Еўрасаюз «50 на 50», Лукашэнка сказаў: «Еўрасаюз сёння займае тую ж удзельную вагу па экспарце, што і Расія. Ну што, Еўрасаюз учора ўступіў у СГА? Мы туды прадавалі прадукцыі столькі, колькі і ў Расію, канкурыруючы. Вось і ўсе вашы факты і спасылкі на СГА расійскае», — заявіў Лукашэнка.

Не трэба быць сямі пядзяў, каб разумець, што такі аргумент не вытрымлівае аніякай крытыкі. Наш экспарт у Еўропу — нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні. Беларускія тэлевізары і лядоўні Еўропа ніколі не набывала і набываць не будзе. А вось экспарт у Расію — таварны: сельгастэхніка, трактары, лядоўні, тэлевізары, прадукты. І менавіта гэта губляе расійскія рынкі — як следства ўступлення Расіі ў СГА. Параўноўваць у гэтым плане Еўропу і Расію — блытаць цёплае і мяккае.

Тым не менш, Лукашэнка аддаў загад: разгрузіць склады да канца года і выйсці на нарматывы па экспарце. «Мы пачулі галоўнае: першы этап — верасень. Вы сказалі: за лета дынаміка будзе значная, трэці квартал — вы практычна ўжо бачна знізіце складскія запасы з вяртаннем грошай у краіну, калі гэта па экспарце, і на 1 студзеня 2014 года выйдзеце на нарматыў. Пад асаблівы кантроль падобнае абяцанне. Усе даручэнні павінны быць персаніфікаваныя. Напрыклад, Мясніковіч адказвае за разгрузку складоў МАЗа, Якабсон — за тое, Сямашка — за гэта, і так далей. Не забудзьце пры гэтым МЗС», — даў даручэнне Лукашэнка.

Гэтая задача для беларускага ўраду амаль невыканальная. Пачнём з таго, што мы ніколі, здаецца, не выходзілі на запланаваныя лічбы па экспарце тавараў, без уліку нафтапрадуктаў і розных растваральнікаў-распушчальнікаў. Да таго ж даваць такія даручэнні напачатку лета — мёртвага сезону, гэта значыць альбо не разумець сітуацыі, альбо свядома правакаваць людзей на невыкананне абавязальніцтваў.

**Наш экспарт у Еўропу — нафтапрадукты і калійныя ўгнаенні. Тэлевізары і лядоўні Еўропа ніколі не набывала і набываць не будзе**

У прынцыпе, пра тое, што гэты ўрад — урад смертнікаў, і доўга не працягне, размовы хадзілі ўжо даўно. Але каго Лукашэнка знойдзе замест сённяшніх міністраў?

Усе аналітыкі адзначаюць, што ў яго вельмі кароткая лава запасных. Ён не можа знайсці кампетэнтныя кадры, і таму «тасуе» старыя. Узяць хаця б прызначаных 10 чэрвеня памочнікаў прэзідэнта — назіральнікаў за абласцям. Дзмітрый Гобараў, які быў прызначаны наглядчыкам за Брэсцкай вобласцю, раней працаваў старшынёй Магілёўскага райвыканкаму. Уладзімір Даманеўскі стаў наглядчыкам па Гродзенскай вобласці з пасады старшыні Слуцкага райвыканкаму.

Кіраўнік Беларусі падкрэсліў, што такія прызначэнні людзей, «якія не знаёмыя блізка з працай гэтых рэгіёнаў», зробленыя з мэтай, «каб не было кругавой парукі, каб інспектар ніяк не быў звязаны з кіраўніцтвам вобласці». Але ці будзе эфектыўным праца чалавека, які не знаёмы з «полем дзейнасці»?

У прынцыпе, з усімі праблемамі Лукашэнка застаецца сам-насам. Гэта праблема ўсіх аўтарытарных лідараў. Пуцін неяк заявіў таксама, што ён самы вялікі дэмакрат, і яму «пасля смерці Махатмы Гандзі і паразмаўляць няма з кім». Тое ж самае ў Аляксандра Рыгоравіча. Новых людзей з новым разуменнем сітуацыі ў яго няма. Інакш бы ён не даручаў Мясніковічу разгружаць склады МАЗа, а патрабаваў бы стварэння моцных інтэрнэт-крамаў беларускай прадукцыі.

Таму новы ўрад, хутчэй за ўсё, будзе складацца са старых чыноўнікаў. І Лукашэнку зноў не будзе з кім паразмаўляць.

САЦЫЯЛОГІЯ

# НЕВЯДОМАСЦЬ ПЕРАМАГАЕ ЛУКАШЭНКУ

Андрэй РАСІНСКІ

**Пра апытанкі, дзе расстаўляюцца рэйтынгі беларускім палітыкам, неаднойчы пісалі. «Новы час» узгадваў, што, згодна з веснавымі дадзенымі НІСЭПД, электаральная столь кіраўніка дзяржавы — 33 адсоткі; ягоныя канкурэнты збіраюць да 5%. Сітуацыя выглядае застойнай; грамадства сабе на розуме.**

Але калі ўважлівей прасачыць за зменамі настрояў, то прышлае абяцае ўладатрымальнікам суцэльную невядомасць.

Зірнем на графік: «Калі б заўтра адбыліся выбары прэзідэнта Беларусі, за каго б Вы прагаласавалі?»

Вылучаюцца два яўныя пікі. Папулярнасць Лукашэнкі сягае максімуму ў 2006 і 2010 гадах. Гэта часы прэзідэнцкіх выбараў. Але калі «горка» 2006 года заспакоеная, нетаропкая і пакуль упэўненая, то 2010 — хударлявы ды істэрычны надрыў. Папулярнасць — мітусліва накачаная прапагандай і раздачай грошай — падскоквае на кароткі тэрмін, каб надалей абваліцца.

Мала таго, выплескі прэзідэнцкай папулярнасці непахісна змяншаюцца. Гэта становіцца асабліва заўважным, калі далучыць да разгляду выбары 2001 і 1994 года. Возьмем — з апорай на скалькуляваныя вынікі НІСЭПД — наймагчымы максімум за 2001 год пад 60%. У 1994 годзе Лукашэнка ўзяў 80%. Вынікі кладуцца на прамую, што коціцца пад адхон. Калі так пойдзе і надалей, то ў 2015 годзе ўзровень падтрымкі аніяк не дасягне 50% (малюнак «Максімальны адсотак галасоў, аддадзеных за Лукашэнку на выбарах»).

**КАЛІ Б ЗАЎТРА АДБЫЛІСЯ ВЫБАРЫ ПРЭЗІДЭНТА БЕЛАРУСІ, ЗА КАГО Б ВЫ ПРАГАЛАСАВАЛІ?**

| Дата | Лукашэнка | Іншы палітык | Цяжка адказаць | Іншыя адказы |
|---|---|---|---|---|
| 15.05.2005 | 41,7 | 15,9 | 33,8 | 8,6 |
| 15.09.2005 | 47,3 | 20,4 | 28,8 | 3,5 |
| 15.12.2005 | 51,2 | 17,7 | 26,1 | 5 |
| 15.02.2006 | 57,6 | 26 | 14,2 | 2,2 |
| 15.04.2006 | 60,3 | 24,3 | 12,5 | 2,9 |
| 15.08.2006 | 54,9 | 18,7 | 22,7 | 3,7 |
| 15.11.2006 | 49,7 | 19,3 | 28 | 3 |
| 15.01.2007 | 50,9 | 19,4 | 23,6 | 6,1 |
| 15.09.2007 | 44,9 | 19,7 | 29,5 | 5,9 |
| 15.09.2008 | 42,5 | 14,6 | 38,3 | 4,6 |
| 15.03.2009 | 39,2 | 11,5 | 44 | 5,3 |
| 15.06.2009 | 40,9 | 10,1 | 41,9 | 7,1 |
| 15.09.2009 | 39,4 | 9,5 | 44,7 | 6,4 |
| 15.12.2009 | 42,5 | 9,8 | 42,5 | 5,2 |
| 15.03.2010 | 42,7 | 14,2 | 38,1 | 5 |
| 15.09.2010 | 39 | 23,8 | 32 | 5,2 |
| 15.10.2010 | 44 | 17,3 | 33,9 | 4,8 |
| 15.12.2010 | 53 | 18 | 23,6 | 5,4 |
| 15.03.2011 | 42,9 | 23,3 | 25,1 | 8,7 |
| 15.06.2011 | 29,3 | 24 | 33,1 | 13,6 |
| 15.09.2011 | 20,5 | 25,1 | 42,6 | 11,8 |
| 15.12.2011 | 24,9 | 22,1 | 44,3 | 8,7 |
| 15.03.2012 | 34,5 | 22,1 | 35,9 | 7,5 |
| 15.06.2012 | 29,7 | 20,5 | 38,8 | 11,0 |
| 15.09.2012 | 31,6 | 30,3 | 32,8 | 5,3 |
| 15.12.2012 | 31,5 | 20,2 | 41,4 | 6,9 |
| 15.03.2013 | 33,4 | 21,0 | 37,6 | 8,0 |

Пасля крызіснага абвалу ад 2011 года рэй вядзе невядомае. Людзі не ведаюць, за каго хацелі б галасаваць, а персона, што саліруе на палітычнай сцэне, ужо і блізка не выклікае захаплення. Падобная дынаміка назіралася ў 2009 годзе, але невядомасць не была настолькі магутнай і імпэтнай, а давер да кіраўніка настолькі слабым. Акрамя таго, ранейшая невядомасць суправаджалася суцэльнай стратай падтрымкі хоць нейкіх палітычных апанентаў. Сёння цікавасць да іх на ўзроўні колішняй прэзідэнцкай кампаніі. І не выглядае, што цікавасць гэтая слабее. На піку эканамічнага крызісу агульная прага «іншых палітыкаў» пераўзышла галасаванку за першага прэзідэнта, а ў верасні 2012 года жаданне ўбачыць у прэзідэнцкім фатэлі нейкага новага названага чалавека дасягнула трацінa галасоў.

Грамадства, праўда, пакуль не ведае, каму дакладна аддаць свой выбар. У прэтэндэнтаў галасоў вобмаль — але імёнаў шмат. Грамадства чакае, на каго зірнуць, не знаходзіць — шукае зноў.

Адразу пасля выбараў 2001 года ў Лукашэнкі таксама былі кепскія справы з рэйтынгам. Але сённяшнія ваганні маюць яшчэ адзін чыннік. Людзі, што займаюцца тэорыяй катастроф, добра ведаюць такую карціну: незадоўга да абвалу сістэмы ваганні ідуць уросхіст, усё дрыгаецца і матляецца, раўнавага не наступае.

Нават такі падазроны паказчык, як «Іншыя адказы» на графіку, стабільна мёртвы ў цішэйшыя часы, пачаў падаваць голас: нейкія гарбы, хвасты — штосьці ідзе не так.

Выглядае, што адміністрацыйная сістэма, збудаваная першым прэзідэнтам краіны, дайшла да мяжы.

Прышлае абяцае ёй невядомасць. А грамадству дае надзею.



ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# «ШПІЁНСКІ РАМАН» АНДРЭЯ ГАЙДУКОВА

Сяргей ПУЛЬША

**Суд над абвінавачаным у шпіянажы Андрэем Гайдуковым, які распачаўся ў сераду ў Віцебскім абласным судзе, праходзіць у закрытым рэжыме. Такое рашэнне прыняла ўлада, нягледзячы на патрабаванні праваабаронцаў і сваякоў Андрэя. Таму мы шмат не даведаемся пра гэтую вельмі цікавую справу, якая нагадвае па стылі шпіёнскі дэтэктыў. Адзінае, чаго ў ім не хапае, — гэта «рамантычнай лініі», а так таямніц і загадак вельмі багата. Нават занадта багата.**



## Ху із містэр Гайдукоў?

Дваццацідвухгадовы (на момант затрымання) слесар па кантрольна-вымяральных прыборах наваполацкага прадпрыемства «Нафтан» Андрэй Гайдукоў быў затрыманы 8 верасня 2012 года. Пра ягонае затрыманне грамадскасць даведалася дзякуючы ягонаму сябру Іллі Багданаву. На біяду КДБ, Багданаў апынуўся хоць не актыўным, але прыхільнікам аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя». КДБ затрымліваў для допыту і самога Багданава, але ён падумаў, што допыт будзе звязаны з БХД, і пра сваё затрыманне і звязаныя з ім акалічнасці паведаміў абласной каардынатарцы аргкамітэту БХД па Віцебску Таццяне Севярынец. Менавіта Таццяна Севярынец паведаміла прэсе, што ў Віцебску знайшоўся «шпіён».

Паколькі інфармацыя ішла ад спадарыні Севярынец, першапачаткова прэса запісала Гайдукова ў актывісты БХД, што адразу надало справе «палітычнасць». Аднак аказалася, што Гайдукоў у БХД не прысутнічаў, але быў адным са стваральнікаў іншай арганізацыі — Саюза маладых інтэлектуалаў (СМІ). Неўзабаве СМІ павінен быў падаць дакументы на рэгістрацыю ў Мінюст, і менавіта Гайдукоў рыхтаваў гэтыя дакументы. Пакуль усе варушыліся, высвятляючы «палітычнасць» СМІ, грамадзянская кампанія «Еўрапейская Беларусь» выступіла з заявай, у якой затрыманне Гайдукова звязвалася з распаўсюдам газеты «Хартыя'97».

Таксама хадзіла версія, што Гайдукоў затрыманы за супрацоўніцтва з заходнімі спецслужбамі, і ледзьве не ЦРУ. Але гэтаму паспрыялі жарты саміх падазраваных-сведкаў-ініцыятараў стварэння СМІ, бо, калі іх пыталіся, хто іх фінансуе і з кім яны супрацоўнічаюць, яны часцяком адказвалі, што іх «вядуць» ЦРУ і Масад. Вось і дажартаваліся.

Апошнім, як заўсёды, з тлумачэннем выступіў КДБ. «Камітэтам дзяржаўнай бяспекі спынена супрацьпраўная дзейнасць грамадзяніна Рэспублікі Беларусь Андрэя Гайдукова, які займаўся па заданні замежнай выведкі зборам і перадачай інфармацыі палітычнага і эканамічнага характару. Гэты грамадзянін затрыманы супрацоўнікамі КДБ у момант закладкі тайніка з цікавячымі замежныя спецслужбы звесткамі. У дачыненні да Гайдукова распачата справа па ч. 1 арт. 356 Крымінальнага кодэкса (здрада дзяржаве ў форме правядзення агентурнай дзейнасці), праводзіцца комплекс аператыўна-вышуковых і следчых мерапрыемстваў, накіраваных на выяўленне іншых эпізодаў яго супрацьпраўнай дзейнасці», — заявіў начальнік Цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ Аляксандр Антановіч.

Гайдукоў быў змешчаны ў СІЗА, перавозіўся ці ў Мінск, ці назад, у Віцебск, з адваката была ўзятая падпіска аб неразгалошванні. На гэтым факты заканчваюцца. Пачынаюцца версіі.

## Праваабаронцы: перасълед палітычны

Некаторыя праваабарончыя арганізацыі і ініцыятывы «пакапаліся» ў справе і вызначылі, што палітыкі там даволі шмат. Папершае, Гайдукова неаднаразова выклікалі ў КДБ і раілі «кінуць дурное са СМІ». Па-другое, як распавёў сябра Гайдукова Яўген Канстанцінаў, падчас выбараў 2010 года Гайдукоў працаваў у камандзе кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава. Пасля 19 снежня 2010 года Канстанцінаў і Гайдукоў займаліся арганізацыяй салідарнасці з палітвязнямі і актыўна ўдзельнічалі ў «маўклівых пратэстах» 2011 года. Але арганізацыю стварылі, падавалася, далёкую ад палітыкі — больш культурна-адукацыйную. Праўда, яна была завязаная кантактамі з расійскімі НДА, але кантакты не былі такімі ўжо шчыльнымі.

Праваабаронцы і эксперты задаюць пытанні, якія навідавоку. Без адказаў на іх з боку следства палітычная версія арышту Гайдукова выглядае цалкам грунтоўнай і асэнсаванай.

Першае: ці меў 22-гадовы слесар КВПіА доступ да дзяржаўных сакрэтаў? Відавочны адказ — не. «Нафтан» — савецкае прадпрыемства, нягледзячы на мадэрнізацыю. Цяжка ўявіць, каб там была такая ўжо «дзяржаўная таямніца».

Другое: чаму ён перадаваў інфармацыю праз «закладку тайніка»? У век інтэрнэту гэта выглядае нейкім анахранізмам. Гайдукоў — чалавек дасведчаны, і для перадачы звестак мог бы скарыстацца не тое што электроннай поштай, а дасласць у любую краіну sms ці mms-паведамленне. «Тайнікам» можна было б скарыстацца, перадаючы нешта больш матэрыяльнае, чым «звесткі», але пра такое нічога не казалася.

Трэцяе: чаму КДБ не давяло спецаперацыю да лагічнага канца? То бок, не «ўзяло» падчас вымання «закладкі» самога шпіёна?

Чацвёртае: чаму не было дыпламатычнага скандалу? Звычайна пасля захопу шпіёна, пасол «нашпіёнішай» краіны выклікаецца ў МЗС, дзе яму прад'яўляюць адпаведную ноту, а за гэтым выкрытыя шпегі пакідаюць краіну. З моманту затрымання Гайдукова ў нас нічога падобнага не назіралася.

Адсутнасць адказу на гэтыя пытанні і дазваляе казаць пра «палітычнасць» справы.

## Гайдукоў — герой Расіі?

Больш цікавую і больш абгрунтаваную версію выказалі журналісты. Яна якраз адказвае на тры пытанні з чатырох, але, пры ўсім гэтым, не робіць Гайдукова шпіёнам. Бо ён збіраў (калі, канешне, увогуле збіраў) не сакрэтную інфармацыю.

Гайдукова затрымалі тады, калі беларускі «растваральна-разбаўляльны бізнэс» быў на піку сваёй актыўнасці. Пры тым Беларусь патрабавала ад Расіі больш нафты для перапрацоўкі. Мы разлічвалі тады, і разлічваем зараз, атрымаць ад Расіі 23 мільёна тон нафты ў год. А расійскія эксперты сумняваюцца ў тым, што такі аб'ём мы здольныя перапрацаваць.

Адмыслоўцы кажуць, што ў 2011 і 2012 гадах, калі Расія пагаджалася забяспечыць «поўную загружанасць» беларускіх НПЗ, максімальны аб'ём перапрацоўкі дасягаў 21,5 мільёна тон. Рэальная вытворчая магутнасць беларускіх НПЗ з'яўляецца вельмі вялікай таямніцай, але розніца паміж «максімальнай загрузкай» і пажаданымі аб'ёмамі пастаўкі ў паўтара мільёна тон не магла не насцярожыць расійскае кіраўніцтва.

Раней апублікаваныя праграмы мадэрнізацыі «Нафтану» і Мазырскага НПЗ ставілі мэтай дасягнуць магутнасці 12 мільёнаў тон на год для кожнага завода толькі да 2015 года.

Не выключана, што расійскія ўлады спрабавалі правесці «нефармальны аўдыт» хаця б аднаго НПЗ, а Андрэй Гайдукоў падазраецца ў зборы інфармацыі (нібыта, дарэчы, заканадаўча не закрытай) аб аб'ёмах перапрацоўкі нафты на сваім заводзе.

Калі б сапраўды выявілася розніца паміж «максімальнай загрузкай» і аб'ёмамі пастаўкі нафты, беларускім уладам прыйшлося б несаладка. Адна справа — маніпуляваць нафтапрадуктамі: гэта хоць і «не па-джэнтльменску», але цалкам дазволена. Расіяне самі забыліся ўключыць растваральнікі-распушчальнікі ў спіс нафтапрадуктаў, за якія Беларусь павінна была вяртаць ім экспартную пошліну (потым гэтая памылка была выпраўлена). Іншая справа, калі пад відам «распушчальнікаў» беларусы проста рээкспартавалі сырую расійскую нафту (розніца паміж загрузкай і аб'ёмам пастаўкі). Гэта ўжо цягне на скандал.

Такім чынам, ёсць адказы на пытанні: якімі сакрэтамі мог валодаць Гайдукоў, чаму КДБ не давяло спецаперацыю да канца (таму што прыйшлося б затрымліваць «свайго». Узор супрацоўніцтва КДБ і расійскіх спецслужбаў мы маем на прыкладзе палітвязня Ігара Алінєвіча (ён быў гвалтоўна затрыманы расійскімі сілавікамі ў Маскве і перададзены КДБ РБ «проста так»), і чаму не было дыпламатычнага скандалу. Хто ж будзе кусаць «руку даючага нафту і газ»?

Не высветленае толькі пытанне з тайнікам. Але яно, насамрэч, другаснае. Можа, і не было ніякага тайніка?



Фота spring96.org

Каля будынка суда ў Віцебску, дзе адбываецца працэс над Андрэем Гайдуковым

## Адказ на «Дылему Гайдукова»

З-за Гайдукова ўзнікла спрэчка паміж праваабарончымі арганізацыямі Беларусі. Найбольш сталыя і аўтарытэтныя з іх, такія, як «Вясна», не вызнаюць Гайдукова «палітвязнем». Маўляў, прызнаць яго такім можна толькі калі пройдзе суд, і на падставе судовага працэсу можна будзе вызначыць, «палітычны» Гайдукоў ці не. Такога падыходу патрабуюць сусветна прызнаныя міжнародныя стандарты праваабарончай дзейнасці.

Іншыя, такія, як «Прававая дапамога насельніцтву» альбо каардынацыйная група «За волю», лічаць, што ўжо на падставе закрытасці следства можна казаць пра палітычны пераслед Гайдукова. Іх пазіцыя больш грунтуецца на «маральнасці»: 23-гадоваму зараз (пакуль Гайдукоў сядзеў у СІЗА, ён на год пасталеў) хлопцу пагражае 15 гадоў зняволення. І калі не падымаць шум зараз, то з яго ў КДБ выб'юць усё, што заўгодна.

Зараз уяўляецца, што больш пераканаўчай была пазіцыя апошніх. Бо, як кажа праваабаронца Алег Волчак, зрабіць суд закрытым можа толькі суддзя на падставе хадайніцтва аднаго з бакоў. Прычым, суддзя можа зрабіць выбар з трох варыянтаў. Першы — поўнасцю «закрыць» працэс. Другі — зрабіць яго «закрытым» часткова, то бок, разглядаць некаторыя матэрыялы следства і пакаранні некаторых сведак таямніча, а іншыя — адкрыта. Трэці — адхіліць хадайніцтва аб «закрыцці» працэсу і праводзіць усё публічна.

Між тым, амаль за два тыдні да пачатку працэсу старшыня КДБ Валер Вакульчык заявіў, што працэс «безумоўна» пройдзе ў закрытым рэжыме. За дзень да суда два адвакаты Гайдукова паведамілі ягонай маці, што разгляд справы будзе праходзіць закрыта.

Я нездарма ўверсе напісаў, што «такое рашэнне прыняла ўлада». Бо ў гэтым выпадку пра незалежнасць суду і незалежнасць рашэнняў суддзі Галіны Урбановіч казаць не выпадае. Значыць, працэс гэты ўжо палітызаваны, і палітызаваны самой уладай, якая не прызнае незалежнасць суду. Хутчэй за ўсё, кіраваць у судовай залі будзе не суддзя, а КДБ.

## Алюзіі з мінулага

Такі ход следства і такі працэс шмат якім праваабаронцам нагадаў пра, аказваецца, не такое ўжо і мінулае — працэсы «шпіёнаў» 30–40-х гадоў мінулага стагоддзя. І тады «шпіёнаў» судзілі закрыты «тройкі». Праўда, вынікам такіх працэсаў быў расстрэл, да чаго пакуль не дайшло зараз.

Іншыя, больш маладзевыя і больш сучасныя арганізацыі кажуць, што гэты працэс — чарговая спроба запалохаць моладзь, якая яднаецца не толькі «ў рэале», але і на прасторах інтэрнэту.

Адзінае можна казаць з пэўнай доляй верагоднасці: нягледзячы на нейкія спробы «замірэння з Захадам» і іншыя прыкметы «лібералізацыі», ніякай «лібералізацыі» ў Беларусі, насамрэч, не адбываецца. Адбываецца, наадварот, пагаршэнне сітуацыі. Бо ўсё, што папярэднічала працэсу Гайдукова, — проста здзек з правасуддзя і з права на атрыманне інфармацыі.

Мы паспеем толькі на самы канец «шпіёнскага раману» — прысуд Гайдукову ў любым выпадку павінен прагучаць адкрыта і ў прысутнасці публікі.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# УСЁ БУДЗЕ ПА-КІТАЙСКУ

**Як паведамляюць з розных крыніц, быццам бы Міністэрства абароны Беларусі выказала зацікаўленасць у набыцці тэхнікі ў КНР. Пра гэта раней звычайна проста разважалі, але зараз чуткі падаюцца за праўду.**



Ветэраны ўспамінаюць і абураюцца, што старая савецкая тэхніка нашмат лепшая за кітайскую. Нагадваюць пра выспу Дамanскі, дзе кітайскія агрэсары атрымалі дастойны адпор. Маўляў, шмат што змянілася ў Паднябеснай, а кітайскія «калашы» застаюцца зброяй для «разавага выкарыстання». Зброя для начных вартаўнікоў, а не для салдатаў.

Урэшце, не ў тым справа. Беларускаму салдаціку якую зброю не даручы, на ўсякі выпадак трэба маліцца, каб вайны не было. Але купляць кітайскія аўтобусы замест беларускіх, як плануе Міністэрства абароны, — гэта ўжо за рамкамі ўяўлення пра здаровы сэнс і нацыянальную бяспеку. Зараз, калі прамысловасць затаварылася, калі запас гатовай прадукцыі машынабудавання дасягнуў двух сярэднемесячных аб'ёмаў вытворчасці, купляць кітайскія аўтобусы — гэта здрада. Хоць і не вайна, але вельмі падобна на тое, як не аднойчы адбывалася ў гісторыі. Калі краіна ваюе, а нейкія інтэнданты робяць свой брудны бізнэс.

Як кажуць французы, на вайне як на вайне. Калі ўжо пачалося, давядзецца прайсці свой шлях да канца. Што б ні казалі зампаліты, да чаго б ні змушалі айцоў-камандзіраў. Прайсці да канца шляхам дружбы з кітайцамі. Нават задумацца пра стратэгічнае супрацоўніцтва.

На гэты конт ёсць вельмі цікавыя лічбы. Прыкладам, галоўным знешнегандлёвым партнёрам Беларусі з'яўляецца Расія, з якой тавараЗварот складае 48,4%. Кітай з тавараЗваротам у 4,3% займае 5-е месца. Паміж Расіяй і Кітаем — Нідэрланды (8,6% тавараЗвароту), Украіна (7,5%), Нямеччына (6%), а шостую-сёмую пазіцыю пасля КНР маюць Польшча з Італіяй (2,6–2,5%).

Цікава выглядае і структура гандлю таварамі з гэтымі краінамі. Вядома, што ў Расіі Беларусь змушана купляць сыравіну для перапрацоўкі, а яе прадукцыю прадаваць ці нават амаль наўпрост перапрадаваць. Як гэта яшчэ ўчора было з растваральнікамі. Карацей, з Расіяй маем блізу 60% імпарту і 40% экспарту. Гатовыя прадаць ці не ўсё, але Масква купляе толькі тое, што ёй патрэбна. Да таго ж у Расіі зараз адбываецца прыстасаванне эканомікі да нормаў Сусветнай гандлёвай арганізацыі. Расія яшчэ не цалкам інтэгравалася з Беларуссю, а ўжо непакоіцца пра лепшае месца ў новым глабальным эканамічным парадку.




Дзе, дарэчы, КНР даўно мае сваё пачэснае месца і адказныя функцыі. Зразумела, расійская прысутнасць у Беларусі больш шырокая і моцная, але гэта вызначаецца выключна рознымі нішамі, якія Расія і Кітай займаюць, розным геаграфічным становішчам, структурнай рознатыпнасцю эканомік. Калі казаць пра Расію, то яна толькі два гады як увайшла ў дзясятку мацнейшых эканомік свету, а Кітай займае другое месца пасля ЗША і вызначаецца выключна моцнымі пазіцыямі ў экспарце.

З іншага боку, абмежаваныя эканамічныя магчымасці, але адметныя геапалітычныя пазіцыі, дазваляюць Беларусі заводзіць хаўрус нават з Пекінам. Бо з краінамі ЕС усё не проста, а вельмі проста. Прыкладам, з Нідэрландамі Беларусь мае 94,6% экспарту і толькі 5,4% імпарту. Такая структура вызначаецца выключнымі інтарэсамі транзітнага бізнэсу, транспарціроўкі нафтапрадуктаў праз порт Ратэрдама. Нідэрланды, як і большасць еўрапейскіх краін-партнёраў, амаль не маюць іншай зацікаўленасці ў беларускіх справах, акрамя транзіту.

У структуры знешнегандлёвага тавараЗвароту з Беларуссю КНР мае 28% імпарту (менш за ўсіх галоўных знешніх партнёраў) і 72% экспарту ў Беларусь. За І квартал бягучага года экспарт у КНР склаў 238,4 мільёна долараў (у 2,75 разы болей), дзякуючы пераважна падвышэнню коштаў калійных угнаенняў, і 613,5 мільёна долараў (138,3% у параўнанні з І кварталам 2012 года) экспарту.

Наогул, кітайскі экспарт мае 50 000 найменняў. Нават паэтычны радок Мао Цзэдуна пра тое, каб квітнелі сто кветак, толькі збольшага адлюстроўвае рэальнае хараство. Не хапае фарбаў.

Калі казаць наўпрост, то беларуская прамысловасць, якая зараз мадэрнізуецца і лічыцца ўжо сучаснай, праз некалькі гадоў у той ці іншай форме атрымае сабе кітайскіх уласнікаў. Я не кажу, што будзе горай, але будзе не так, як зараз. Будзе па-кітайску.

ЭКСПЕРТЫЗА

# МАДЭРНІЗАЦЫЯ: ЧАГО НЕ ХАПАЕ БЕЛАРУСІ

**Той, хто мае найноўшыя тэхналогіі, зусім не абавязкова будзе найбольш канкурэнтным вытворцам, лічыць дырэктар Даследчага цэнтра Інстытута прыватызацыі і менеджменту Аляксандр Чубрык. Прапануем вашай увазе яго экспертнае меркаванне.**




— Апошнім часам беларуская мадэль росту відавочна дасягнула пэўных межаў. На працягу 15 гадоў рост паступова запавольваўся. А потым быў першы крызіс 2009 года, за ім другі, 2011 года. Вось менавіта тады і паўстала ідэя мадэрнізацыі, нібыта як адказ на крызісныя праявы.

2011 год наогул быў багаты на ідэі. Тады ўрад падышоў даволі блізка да размоў пра структурныя рэформы, развіццё прыватнага сектару. Але потым было сказана, што эканамічны рост павінен быць 5–5,5%, Мясніковіча абазвалі «рыначнікам», і ўсё спынілася. Замест гэтага з'явілася ідэя мадэрнізацыі.

Сапраўды, выглядае так: усё, што рабілася раней, зараз назвалі іншым словам. Былі інвестыцыі, стала мадэрнізацыя. Толькі фокус трошкі пасунуўся: раней кутным каменем было будаўніцтва, зараз — тыя ж інвестыцыі, толькі ўжо ў аднаўленне вытворчых фондаў.

Між тым, за апошнія гады шмат на якіх дзяржаўных прадпрыемствах асноўныя фонды даволі істотна аднавіліся.

Ёсць прыклады, калі гэта давала добрыя вынікі, як у нафтаперапрацоўцы. Але ёсць і шмат выпадкаў, дзе вынікаў не было, нягледзячы на тое, што на аднаўленне выдаткоўваліся вялікія грошы, у тым ліку і крэдытныя.

Калі мадэрнізацыя рабілася за крэдытныя грошы, далёка не ва ўсіх выпадках прадпрыемствы атрымалі пасля пераабсталявання такую рэнтабельнасць, якая дазволіла б абслугоўваць гэтыя крэдыты ды яшчэ мець прыбытак. Прадпрыемствы нярэдка не маглі загрузіць новыя магутнасці, бо на іх прадукцыю не знайшлося попыту, ці патрапілі ў пастку дзяржаўнага рэгулявання адпускных коштаў і апынуліся стратнымі.

Ды ці мала было прычынаў, што зрабілі ранейшую мадэрнізацыю неэфектыўнай? Але ж на яе былі выдаткаваны вялікія дзяржаўныя грошы.

І з бягучай мадэрнізацыяй шмат пытанняў наконт таго, дзе дзяржава возьме грошы, каб рэалізаваць такія буйныя планы.

Звычайны рынкавы стымул працуе гэтак: спачатку ёсць ідэя, і пад гэтую ідэю ты шукаеш фінансаванне.

У нас у краіне ўсё працуе інакш. Дзяржаўным прадпрыемствам кажуць: трэба мадэрнізавацца, мы вам дадзім грошы. Ад вас неабходныя планы. Гэта ж зусім іншы стымул. Ці трэба ў такіх умовах моцна клапаціцца пра вынік?

Да таго ж пра што пытаюць у кіраўніка дзяржаўнага прадпрыемства? Ці расце вытворчасць, ці расце заробак, ці няма скарачэнняў працоўных — вось гэтыя тры рэчы былі і застаюцца падмуркам дзейнасці дзяржпрадпрыемства. Прыбытку і эфектыўнасці сярод іх няма. Такая мадэрнізацыя працуе ў абмежаваным коле галінаў. Як у той жа нафтаперапрацоўцы, дзе сусветны рынак лёгка пагліне дадатковы аб'ём нафтапрадуктаў.

А вось на больш канкурэнтных рынках усё нашмат больш складана. Тут трэба ўмець прадаваць. А дзеля гэтага мець зусім іншыя стымулы.

Таму і ідэю з мадэрнізацыяй нельга разглядаць як нешта новае. Хутчэй гэта названы іншым словам працяг той самай палітыкі, якая ладзілася раней.

Мяркую, ёсць сектары, якія пры больш-менш удалай мадэрнізацыі змогуць выдаткаваць грошы адносна эфектыўна. Напрыклад, энергетыка. Калі ўлады мадэрнізуюць энергетыку і тыя прадпрыемствы, якія з'яўляюцца найбуйнейшымі спажыўцамі энергетычных прадуктаў, павысяць іх энергаэфектыўнасць, гэта будзе вялікі ўнёсак у паляпшэнне становішча. Там новае абсталяванне будзе сапраўды эфектыўным. А пакуль танны газ у нас выкарыстоўваецца неэфектыўна: выдаткі на вытворчасць электраэнергіі папросту шалёныя ў параўнанні з коштамі, па якіх мы набываем у Расіі энерганосьбіты.

Важна, што мадэрнізацыя, якая зараз вядзецца, скіраваная на стымуляванне эканамічнага росту. Хаця больш карысці было ў тым, каб браць накірунак на эканомію і эфектыўнасць. У той жа энергетыцы можна было б шукаць дапамогі ў міжнародных донараў, бо праекты па энергаэфектыўнасці фінансуюцца даволі ахвотна.

Дзе браць новыя тэхналогіі? На Захадзе ці на Усходзе? Але самае істотнае нават не гэта. Галоўнае пытанне: ці будзе найбольш канкурэнтным вытворцам той, хто мае найноўшыя тэхналогіі? Зусім не абавязкова. Не менш важна, наколькі эфектыўна арганізаваны ўвесь працэс, а не толькі вытворчасць.

Другі момант: калі мы маем прыватніка, які пачынае з ідэі, ён вызначае, якая тэхналогія для яго аптымальная. Магчыма, не зусім новая, але тая, што найбольш эфектыўна дапаможа яму зарабляць грошы.

І трэцяе. Дапусцім, мы набылі новае абсталяванне. Але ж яно не ўнікальнае, яно дзесьці ў кагосьці таксама працуе. Канкураваць мы будзем усё роўна не па якасці абсталявання, а па тым, як наладжаны ўвесь працэс.

Таму пытанне не ў тэхналогіях, не ў абсталяванні, а першнаперш ва ўмовах. Але гэта ўжо пытанне эканамічнай палітыкі, а не мадэрнізацыі.

У нармальнай краіне ўлады, рыхтуючы праграму мадэрнізацыі, звяртаюцца па дапамогу ці прапановы да незалежных экспертаў. Напрыклад, да нашага Даследчага цэнтра ніхто не звяртаўся. Хаця было б добра, калі б у той жа справе мадэрнізацыі меў месца дыялог з прадстаўнікамі прыватнага бізнэсу, якім на самай справе ёсць што казаць.

Неацэнная магла б быць і дапамога Еўрасаюза. Гэта маглі б быць як вытворчыя, так і арганізацыйныя тэхналогіі. Ці супрацоўніцтва ў гэтым накірунку ў межах таго ж Усходняга партнёрства, ці «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю».

Хаця, слова «мадэрнізацыя» вельмі шматзначнае. Калі казаць пра ініцыятыву «Еўрапейскі дыялог аб мадэрнізацыі з Беларуссю», то там гаворка ідзе пра змены накірункаў развіцця, сацыяльна-эканамічнай мадэлі наогул. Гэта хутчэй пра рэформы. А дзяржаўная мадэрнізацыя — гэта замена вытворчых фондаў і крыху менеджменту. Магчыма, гэта адна з прычынаў таго, чаму гэты дыялог у выніку не атрымліваецца.

У рамках «Еўрапейскага дыялогу аб мадэрнізацыі з Беларуссю» хутчэй трэба было б гаварыць пра праграмы тэхнічнай дапамогі — і з урадам, і з арганізацыямі грамадзянскай супольнасці па канкрэтных накірунках. І вырашаць канкрэтныя праблемы з удзелам еўрапейскіх і беларускіх экспертаў. Але ж адносіны з Еўрасаюзам зараз не на тым узроўні, каб разважаць пра карысныя і правільныя фармат. Хаця такая тэхнічная дапамога (як паказвае досвед супрацоўніцтва з Сусветным банкам і МВФ) была б вельмі карысная для нас.

**Паводле zautra.by**

7

# TV ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 17 ЧЭРВЕНЯ, ПАНЯДЗЕЛАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Камедыя «Прыватны дэтэктыў, ці Аперацыя «Кааперацыя» (СССР).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.20** Журналіцкае расследаванне.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**16.00** Каталіцкія святыні Беларусі.
**16.30** Меладрама «Прадказанне» (Расія-Францыя).
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 22.50** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.25** Дзень спорту.
**23.40** Дак. цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здорава!».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Шалапутныя нататкі».
**12.30** «Час абедаць!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.00** «За кулісамі «Вялікай розніцы».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**21.55** «Цюдоры». Шматсерыйны фільм.
**00.05** «Вячэрні Ургант».
**00.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**08.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**09.40** «Вялікі сняданак».
**10.20** Міс - Мінск 2013.
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.25** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**12.55** «Вялікі горад».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** «Зорны рынг». Новы сезон.
**14.55** «Іншая краіна».
**15.55** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**16.20** «Наша справа».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Ашуканыя навукай».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Смерць у эфіры». ЗША, 2007 г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Знахар». Серыял.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сакваяж са светлай будучыняй» (Расія). 1-я серыя.
**10.15** Навіны надвор'я.
**10.50** Музычная камедыя «Беражыце жанчын» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**13.25** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Беларусь - Літва. Прамая трансляцыя.
**15.20** Кінааповесць «Шэльма» («Беларусьфільм»).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Вострасюжэтны дэтэктыў «Зброя».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**23.05** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе» (Аўстралія).
**23.40** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).
**00.30** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**13.00** «Справа Х. Следства працягваецца».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** «Шукальнікі».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.45** «Драма на Паміры».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** ВСерыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.25** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Рускія амазонкі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Дзёрзкасць».
**11.00, 20.30** «Партызанскі край».
**11.30** «Агульны інтарэс».
**12.25** Т/с «Ваш гонар».
**14.00** «Злачынствы і пакаранне».
**14.30** «Простая мова».
**14.45** «Агульны рынак».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.40** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25** «Свет Спорту».
**21.55** Д/ф «У свеце каменных джунгляў».
**23.35** Т/с «Бес у рабро ці цудоўная чацвёрка».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Размовы эксперта.
**07.20** Побач з намі.
**07.35** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**07.45** Без рэтушы: «Амазонкі глыбокіх крыніц», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**08.05** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 2 серыя.
**08.50** «Кім Чэн Ір: Засакрэчаная біяграфія», дак. фільм, 2010 г., Японія–Францыя.
**09.45** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**10.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Час гонару», серыял: 39 серыя.
**18.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аповеды таты Бабра».
**20.00** Хто ёсць кім?: «Алесь Сураў – непакорны мастак», рэпартаж.
**20.20** Два на два (тэледыскусія).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Побач з намі.
**22.15** Фільматэка майстроў: «Пара асоб, малы час», біяграфічная драма, 2005 г., Польшча.
**00.05** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 5 серыя.
**01.00** Размовы эксперта.

## 18 ЧЭРВЕНЯ, АЎТОРАК

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Усё як мае быць!
**10.30** Каталіцкія святыні Беларусі.
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналіцкае расследаванне.
**13.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.40** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Шалапутныя нататкі».
**12.30** «Час абедаць!».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны фільм «Абарона сведак». Заключныя серыі.
**23.20** Фільм «Амелія».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Чыстая праца».
**09.45** «Такі лёс».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Банда Кэлі». Аўстралія - Вялікабрытанія - ЗША - Францыя, 2003 г.
**15.50** «Дзіўная справа».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Па-вар'яцку закаханы». Італія, 1981 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Знахар». Серыял. Заключныя серыі.
**01.50** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Сакваяж са светлай будучыняй « (Расія). 2-я серыя.
**10.20** Дак. серыял «Будзь у тонусе».
**10.55** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**11.50** Цела чалавека.
**12.25** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.10** Вострасюжэтны дэтэктыў «Зброя».
**15.10** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Вострасюжэтны дэтэктыў «Зброя» (Расія). Заключныя серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**23.00** Дак. серыял «Будзь у тонусе».
**23.35** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.45** «Адмысловы карэспандэнт».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Чыстасардэчнае прызнанне.
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**09.10** М/ф «Гу-га».
**11.30, 20.30** «Партызанскі край».
**12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**12.25** Т/с «Ваш гонар».
**14.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**14.30** «Незвычайная дзяцінства».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.30** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.40, 01.30** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25** «Саюзнікі».
**21.55, 03.10** Д/ф «У свеце сакрэтных ведаў».
**23.20** Т/с «Бес у рабро ці цудоўная чацвёрка».
**01.00** «Усюды жыццё».
**03.45** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Два на два (тэледыскусія).
**08.25** Фільматэка майстроў: «Завітай да мяне ў сне», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**09.35** «Гастарбайтэр», рэпартаж, 2009 г., Беларусь.
**10.10** На колах.
**10.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 3 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 5 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Двубой у Вэнлё».
**18.55** Праект «Будучыня».
**19.20** Без рэтушы: «Па кім маўчыць звон?», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**20.05** Хто ёсць кім?: «Андрэй Такінданг: «..апрануўшы белую кашулю..», рэпартаж.
**20.20** Чорным па белым.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Размовы эксперта.
**22.25** «Доктар Марцін», серыял: 24 серыя.
**23.10** «Малая Масква», серыял: 2 серыя.
**00.05** Лета з дэтэктывам: «Афіцэр», дэтэктыўны серыял: 6 серыя.
**01.00** Аб'ектыў.
**02.25** Студыя «Белсат».

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 19 ЧЭРВЕНЯ, СЕРАДА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Зямельнае пытанне.
**17.15** Медычныя таямніцы.
**17.45** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.10** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

---

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Шалапутныя нататкі».
**12.30** «Час абедаць!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Пандора».
**23.20** Фільм «Містар і місіс Брыдж».
**01.35** Начныя навіны.

---

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Па-вар'яцку закаханы». Італія, 1981 г.
**15.45** «Жывая тэма».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Мінсчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Дзяўчына з жамчужнай завушніцай». Вялікабрытанія - Люксембург, 2003 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**01.55** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Саквояж са светлай будучыняй» (Расія). 3-я серыя.
**10.15** Наперад у мінулае.
**10.55** Дак. серыял «Будзь у тонусе».
**11.50** Вострасюжэтны серыял «Гонкі па вертыкалі» (СССР). 1-я серыя.
**13.15** Вострасюжэтны дэтэктыў «Зброя» (Расія). Заключныя серыі.
**15.15** Серыял «Дзяржаўная мяжа».
**16.50** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Футбол. Чэмпіянат Рэспублікі Беларусь. Прамая трансляцыя.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлато 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Бразілія - Мексіка. Прамая трансляцыя.
**23.55** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.45** «Валер Залатухін. Я ніколі нічога не прасіў».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі..».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.25** Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Рускія амазонкі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Подзвіг Адэсы».
**11.30, 20.30** «Партызанскі край».
**12.25** Т/с «Ваш гонар».
**14.00** «Саюзнікі».
**14.30, 01.10** «Даведнік».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.40, 01.35** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55, 03.20** Д/ф «Эпоха. Падзеі і людзі».
**23.25** Т/с «Бес у рабро ці цудоўная чацвёрка».
**04.00** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Размовы эксперта.
**08.20** «Доктар Марцін», серыял: 24 серыя.
**09.05** «Малая Масква», серыял: 2 серыя.
**09.55** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.05** Праект «Будучыня».
**10.35** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Мікі Моль і Страшны Плашч», анімацыйны фільм: 3 серыя.
**17.25** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 6 серыя.
**17.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 3 серыя.
**18.50** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: 1 серыя.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**20.00** Без рэтушы: «Каліф на гадзіну», рэпартаж, 2010 г., Беларусь.
**20.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** Назад у будучыню.
**22.15** «Глыбокая вада», серыял: 2 серыя.
**23.00** «Дзень шахцёра», дак. фільм, 2010 г., Расія.
**00.10** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 5 серыя.
**00.55** Аб'ектыў.
**01.20** Студыя «Белсат».

## 20 ЧЭРВЕНЯ, ЧАЦВЕР

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.25** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Каробка перадач.
**17.15** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.45** Серыял «Добры дзень, мама!».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.05** Зона Х. Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.00** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**23.40** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

---

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Шалапутныя нататкі».
**12.30** «Час абедаць!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Зразумець. Прабачыць».
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Пандора».
**23.20** «Пад абцасам».
**00.20** «Вячэрні Ургант».
**01.05** Начныя навіны.

---

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Дзяўчына з жамчужнай завушніцай». Вялікабрытанія - Люксембург, 2003 г.
**15.45** «Якія людзі!».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Нам і не снілася».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Мужчынская жаночая гульня». Расія, 2011 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Памнажаючы смутак». Серыял.
**01.55** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыў «Саквояж са светлай будучыняй» (Расія). 4-я серыя, заключная.
**10.15** Вышэй за дах.
**10.55** Цела чалавека.
**11.40** Вострасюжэтны серыял «Гонкі па вертыкалі» (СССР). 2-я і 3-я серыі.
**14.20** Крымінальная драма «Мяне завуць Арлекіна» («Беларусьфільм»).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Музычная меладрама «Харысты» (Францыя).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Іспанія - Таіці. Прамая трансляцыя.
**23.55** Час футболу.
**00.40** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада).

### РОССИЯ

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** Тэлесерыял «Каралева бандытаў».
**22.40** Тэлесерыял «Самара».
**23.40** Навіны - Беларусь.
**23.50** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.45** «Паядынак».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.20** Серыял «Ментоўскія войны».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.30** Дэтэктыўны серыял «Масква. Тры вакзалы».
**00.25** Прэм'ера. Дэтэктыўны серыял «Сцервы».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Рускія амазонкі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Галоўны канструктар».
**11.30, 20.30** «Партызанскі край».
**12.25** М/ф «Ад змяркання да світання».
**14.15, 01.25** «Дыяспары».
**14.45** «Кыргызстан у асобах».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.40, 01.50** Т/с «Закон і парадак. Аддзел аператыўных расследаванняў».
**21.25, 05.25** «Беларусь сёння».
**21.55, 03.40** Д/ф «Зорнае сяброўства».
**23.35** Т/с «Бес у рабро ці цудоўная чацвёрка».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** Назад у будучыню.
**08.10** «Глыбокая вада», серыял: 2 серыя.
**09.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.20** «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: 1 серыя.
**09.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**10.00** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 5 серыя.
**17.30** «100 хвілін вакацыяў», тэлесерыял: 3 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Праведнікі», тэлесерыял: 3 серыя.
**18.50** На колах.
**19.20** Невядомая Беларусь: «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: 2 серыя.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.55** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.10** Вагон.
**20.20** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 31.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**22.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**23.05** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Раскіданы дом», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.50** Лета з дэтэктывам: «Пітбуль», серыял: 6 серыя.
**00.35** Аб'ектыў.
**00.50** Студыя «Белсат».

## 21 ЧЭРВЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 Беларусь

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.30** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Добры дзень, мама!».
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** «Дзень у вялікім горадзе». Інтэрактыўнае жаночае ток-шоў.
**13.15** Журналісцкае расследаванне.
**13.45** Ваенны дэтэктыў «Апостал» (Расія).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 22.00** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар» (Расія).
**21.00** Панарама.
**22.30** Драма «Жыві і памятай» (Расія).
**00.45** Дзень спорту.
**01.00** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### ОНТ

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсерыйны фільм.
**12.10** «Шалапутныя нататкі».
**12.30** «Час абедаць!».
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.05** «Модны прысуд».
**15.05** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Анастасія Слуцкая».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Рамантычная камедыя»Жаніх напракат».
**23.10** Баявік «Рэд».
**01.10** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** Міс - Мінск 2013.
**09.05** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Міс - Мінск 2013.
**13.55** Фільм «Мужчынская жаночая гульня». Расія, 2011 г.
**15.35** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Міс - Мінск 2013.
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Нявеста з таго свету». ЗША, 2007 г.
**22.20** Міс - Мінск 2013.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.

### 2 Беларусь

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Кінааповесць «Яшчэ пра вайну» («Беларусьфільм»).
**10.15** Час футболу.
**11.10** «Васіль Быкаў. Франтавыя старонкі». Дакументальны фільм.
**11.45** Драма «Знак бяды» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.



**14.30** Музычная меладрама «Харысты» (Францыя).
**16.45** Мазгавы штурм.
**17.20** Беларуская кухня.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Камедыйны баявік «Дурная кампанія» (ЗША-Чэхія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Містычны трылер «Чацвёрты від» (ЗША-Вялікабрытанія).
**23.25** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.15** Баскетбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны.
**01.50** Арэна.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Прамы эфір».
**12.40** Тэлесерыял «Дастаеўскі».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Самара».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.45** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**22.30** Тэлесерыял «Самара».
**23.30** Навіны - Беларусь.
**23.40** «Пацалуйце нявесту!» Тэлесерыял.
**00.35** Фільм «Здзіві мяне» (2011 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія дзеці».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.35** Вострасюжэтны серыял «Вуліцы пабітых ліхтароў».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем».
**18.30** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Прэм'ера. Вострасюжэтны серыял «Кодэкс гонару-6».
**21.15** Прэм'ера. «Жыццё як песня».
**22.50** Крымінальная драма «Аднойчы ў Марсэлі».
**01.00** «Першая кроў».

### Мир

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Т/с «Арабэла вяртаецца».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Руская амазонкі».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Яшчэ да вайны».
**11.30** «Партызанскі край».
**12.25** М/ф «Пагроза».
**14.15** «Сардэчна запрашаем».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** «Сакрэтныя матэрыялы».
**17.30** «Злачынства і пакаранне».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45** М/ф «Яна сказала «Так!».
**21.25** «Любімыя акцёры».
**21.55** М/ф «Шклянка вады».
**00.25** М/ф «Вячэрні звон».
**01.55** М/ф «Балібо».
**03.55** Д/ф «З нагоды. Выдатны сусед».

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Раскіданы дом», дак. фільм, 1996 г., Польшча.
**09.45** На колах.
**10.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 6 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 3 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 3 серыя.
**18.50** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**19.20** Невядомая Беларусь: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**20.00** Форум (ток-шоў).
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.15** «Кароль-вінароб», серыял: 8 серыя.
**23.00** «Зух» (Fuks), камедыя, 1999 г., Польшча.
**00.30** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 3 серыя.
**01.25** Аб'ектыў.
**01.40** Студыя «Белсат».

## 22 ЧЭРВЕНЯ, СУБОТА

### 1 Беларусь

**06.15** Гераічная драма «Брэсцкая крэпасць» (Беларусь-Расія).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Таткі».
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Лірычная камедыя «Верныя сябры» (СССР).
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Фільм-фэнтэзі «Кніга майстроў» (Расія).
**17.25** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Трылер «Ілюзія палёту» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік «Выратавальнік» (ЗША).
**00.10** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**01.05** Дзень спорту.
**01.15** Камедыйны серыял «Таткі» (Расія-Украіна).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** Фільм «У 6 гадзін вечара пасля вайны».
**12.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.50** Фільм «Крэпасць».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Фільм «У чэрвені 41-га».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** «Што? Дзе? Калі?».
**00.05** Прэм'ера. Фільм «127 гадзін».

### СТВ

**06.10** «Салдаты». Серыял.
**07.50** Міс - Мінск 2013.
**07.55** Фільм «Нявеста з таго свету». ЗША, 2007 г.
**09.40** «Чыстая праца».
**10.30** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Міс - Мінск 2013.
**13.45** Фільм «У сузор'і быка». Расія, 2003 г.



**15.35** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Міс - Мінск 2013.
**17.50** «Дзіўная справа».
**18.55** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Пралятаючы над гняздом зязюлі». ЗША, 1975 г.
**22.45** Міс - Мінск 2013.
**22.50** «Зорны рынг». Новы сезон.
**23.50** Фільм «Мільён гадоў да нашай эры 2». Францыя - Іспанія, 2007 г.
**01.30** «Глядзець усім!».

### 2 Беларусь

**08.00** Мультфільм «Лятучы карабель».
**08.20** Прыгодніцкі серыял «Тры талеры» (Белтэлерадыёкампанія). 1-я і 2-я серыі.
**10.15** Пазакласная гадзіна.
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Музычная камедыя «Сэрцы чатырох» (СССР).
**12.30** Наперад у мінулае.
**13.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.40** Беларуская кухня.
**14.15** Мазгавы штурм.
**14.50** Ваенны баявік «У чэрвені 41-га» (Расія-Беларусь). 1-я - 4-я серыі.



**19.15** Ваша лато.
**20.00** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.20** Фактар сілы.
**21.55** Футбол. Кубак Канфедэрацый. Італія - Бразілія. Прамая трансляцыя.
**23.55** Крымінальная меладрама «Аднойчы ў правінцыі» (Расія).

### Россия

**07.00** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**08.35** Камедыя «Кахаю, таму што кахаю» (2012 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Суботнік».
**11.55** «Ха». Маленькія камедыі.
**12.25** Фільм «Вылет затрымліваецца».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**14.50** Фільм «Смага» (2010 г.).
**18.00** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Сцяжынка ўздоўж ракі». 2011 г.
**00.10** 1/4 фіналу Першай лігі МС КВЗ.

### НТВ

**06.30** Серыял «Злачынства будзе раскрыта».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Агляд».
**08.50** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.50** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Прафесія-рэпарцёр».
**13.50** Вострасюжэтны серыял «УГРО-4».
**19.00** Сёння.
**19.25** Вострасюжэтны серыял «УГРО-4».
**21.10** «Рускія сенсацыі». Інфармацыйны дэтэктыў.
**22.10** «Ты не паверыш!».
**23.10** Вострасюжэтны фільм «Вяртанне».
**00.50** «Прамень Святла».
**01.20** «Рэакцыя Васэрмана».

### Мир

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**07.50** М/с «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10** М/ф «Асабліва важнае заданне».
**12.30** М/ф «Яшчэ да вайны».
**15.10** Т/са «Што сказаў нябожчык».
**20.05** «Навіны Садружнасці. Культура».
**20.45** М/ф «Жаночыя штучкі».
**22.10** М/ф «Яна сказала «Так!».
**23.55** М/ф «Аднакласнікі».
**01.50** «Музычны ілюмінатар».
**02.20** М/ф «Звычайны герой».
**04.05** «Цюркі Расіі».

### Белсат

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, бусламі», анімацыйны серыял для дзяцей: 3 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 5 серыя.
**09.40** «Чарцюк з сёмага класу», дэтэктыўна-прыгодніцкі серыял: 3 серыя.
**10.25** Форум (ток-шоў).
**11.15** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**11.40** «Дзень «Ч». Версія», дак. фільм, 2009 г., Беларусь: 1 серыя.
**12.10** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 7 серыя.
**13.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**13.05** «Час гонару», серыял: 39 серыя.
**13.55** «Зух», камедыя, 1999 г., Польшча.
**15.20** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Двубой у Вэнлё».
**16.15** «Кароль-вінароб», серыял: 8 серыя.
**17.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 25 серыя.
**17.30** «Скрадзеная малітва», дак. фільм, 2008 г., Польшча.
**17.45** «Калядныя вітрыны», дак. фільм, 2003 г., Францыя.
**18.40** «Малая Масква», серыял: 3 серыя.
**19.30** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Паляванне на дзівосы (спазнаваўчая праграма).
**20.20** Без рэтушы: «Васіль Быкаў. Апошнія дні»: ч. 1, дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**20.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Доўгі ўік-энд», камедыя, 2004 г., Польшча.
**22.30** Невядомая Беларусь: «Беларускі лес», дак. фільм, 2008 г., Беларусь.
**23.00** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 3 серыя.
**23.45** Аб'ектыў.
**00.05** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2013», канцэрт.
**00.55** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

МЕРКАВАННЕ

# ЦІ ПЕРАМОГУЦЬ ПІНГВІНЫ ЭРДАГАНА?

**Эрдаган сеў за стол перамоваў. Але ці пойдзе ён у адстаўку? Пра падзеі ў Турцыі і прычыны пратэста журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з турэцкім сацыяльным актывістам Сінгурам Саўранам.**





***— Хто-небудзь з турэцкіх палітолагаў або журналістаў прагназаваў, што палітычны працэс у Турцыі будзе развівацца па цяперашнім сцэнары?***

— Нават падчас арабскай вясны ніхто ўсур'ёз не думаў пра барыкады і стотысячныя маніфестацыі. Аўтарытэт прэм'ера Эрдагана яшчэ пару тыдняў таму здаваўся непарушным. Не маючы моцнага тылу, ён сам не пайшоў бы на канстытуцыйную рэформу, не заключыў бы мір з курдамі, не пачаў весці б вельмі рызыкоўную гульню на падтрымку сірыйскай апазіцыі. Аднак у выніку аказалася, што база рэжыму не такая маналітная. Дастаткова было фатальнай памылкі ў выглядзе брутальнага разгону дэманстрантаў у парку Гезі, як выявіліся буйныя супярэчнасці паміж сацыяльнымі групамі насельніцтва і нават унутры лагеру прыхільнікаў АКР (афіцыйная Партыя развіцця і справядлівасці).

***— Чаму праява паліцэйскага гвалту выклікала такую пратэстную рэакцыю з боку турэцкага грамадства?***

— Паліцэйскі гвалт дапоўніўся двума фактарамі. Па-першае, паліцэйскія абаранялі інтарэсы будаўнічай фірмы, а гэты сектар лічыцца звязаным з уладай. Акрамя таго, людзей шакавала рэакцыя ў СМІ, якая стала дадатковай ілюстрацыяй карумпаванага характару дзяржавы і бізнэсу. У той час, як увесь інтэрнэт бурліў навінамі пра падзеі на плошчы Таксім, ніводны канал тэлебачання не асвяціў гэтую падзею. Прычына зразумелая — нежаданне ўладальнікаў студый канфліктаваць з уладай. Таму замест хапуна нам паказвалі розныя забаўляльныя праграмы, у тым ліку фільм пра пінгвінаў, што дало падставу для акіяна жартаў, а сама выява пінгвіна хутка стала сімвалам пратэстаў. Калі сур'ёзна, то Таксім агаліў глыбокі сацыяльны канфлікт. Улады і сам Эрдаган успрымаюць туркаў выключна як цёмных сялян з Анталіі. Наш прэм'ер нават публічна тлумачыў, як трэба піць ёгурт. Аднак аказалася, што ёсць іншая Турцыя — урбаністычная, вестэрнізаваная, арыентаваная на каштоўнасці дэмакратыі і сацыяльнай справядлівасці. Цяпер гэтая Турцыя патрабуе для сябе роўных правоў.

***— Аднак кансалідаванай праграмы патрабаванняў у прагрэсіўнай часткі туркаў няма…***

— Гэта зразумела, калі паглядзець на партрэт сярэднестатыстычнага ўдзельніка антыўрадавых пратэстаў. 75 працэнтаў удзельнікаў акцый — людзі маладзей за 30 гадоў. Палова з іх ніколі не цікавілася палітыкай. Адсюль карнавальны прысмак таго, што адбываецца. З іншага боку, маладыя людзі не могуць сфармуляваць сваю праграму. Відавочна, што патрабаванне кансервацыі ў цяперашнім выглядзе парку Гезі — вельмі лакалізаваны лозунг. Ініцыятыву ў моладзі спрабуюць перахапіць левыя партыі і прафсаюзы, аднак пакуль уся канкрэтыка абмяжоўваецца толькі адным патрабаваннем — адстаўка прэм'ера Рэджэпа Эрдагана.

***— У рэпартажах з акцый пратэстаў можна пабачыць шмат партрэтаў Атацюрка. Ці значыць гэта, што моладзь сімпатызуе кемалісцкай спадчыне?***

— Думаю, што большасць маладых людзей ставіцца да Атацюрка абыякава. Аднак у дадзеным выпадку вывучаныя ў школьнай праграме запаветы Атацюрка пра адзінства нацыі, доўг кожнага грамадзяніна перад радзімай, нечакана набылі актуальнае гучанне. Плюс імідж Эрдагана як ісламіста і крытыка свецкай мадэлі дзяржавы, за якую змагаўся Атацюрк. Улады самі далі падставу для рэнесансу любві да кемалізму — як вядома, Эрдаган марыў аднавіць на тэрыторыі парку Гезі элементы артылерыйскіх баракаў пачатку мінулага стагоддзя. Гэтыя баракі былі цэнтрам путчыстаў, якія ў 1909 годзе зрынулі ўладу младатуркаў, да якіх належаў і Мустафа Кемаль. Маніфестанты, калі співаюць песню «Мы ўсе салдаты Атацюрка», проста выказваюць сваю апазіцыйнасць да Эрдагана.

***— Як ставяцца да пратэстаў курдскія нацыяналісты? Як вядома, не так даўно яны падпісалі з Анкарой мірную дамову ў абмен на культурна-адміністратыўную аўтаномію.***

— Кіраўніцтва Рабочай партыі Курдыстана прыняло на гэты конт спецыяльную заяву. На думку курдаў, рэпрэсіі супраць дэманстрантаў непрымальныя, паколькі перашкаджаюць усталяванню ў Турцыі дэмакратыі, без якой немагчыма ў тым ліку развіццё курдскага народу. Аналітыкі лічаць, што, хутчэй за ўсё, РПК адтэрмінуе эвакуацыю сваіх атрадаў у іракскі Курдыстан, як гэтага патрабуе дамова. Увогуле, знешняя палітыка Турцыі, у тым ліку ў сірыйскім пытанні, цяпер, напэўна, будзе не такой актыўнай.

***— Ці можа Эрдаган пайсці ў адстаўку?***

— Пакуль ён рашуча адмаўляе такую перспектыву. Блізкія да ўраду СМІ сцвярджаюць, што за ўсімі хваляваннямі стаяць люмпены і алкаголікі, незадаволеныя нядаўнім драконаўскім законам аб абмежаванні продажу алкагольных напояў. Што тычыцца прэм'ера, то калі ён 8 чэрвеня вярнуўся з Афрыкі, у аэрапорце мела месца вялікае шоў. У прысутнасці натоўпу сваіх фанатаў палітык звінавáціў у апошніх падзеях ворагаў Турцыі, якія намагаюцца разбурыць турэцкую эканоміку. Па яго словах, выхадкі «вандалаў» таксама прафінансаваў кіраўнік аднаго з банкаў. У фінале прамовы кіраўнік ураду паабяцаў ахвяраваць жыццё за дэмакратыю. Такая ваяўнічая рыторыка была прадказальнай з улікам асобы Эрдагана. Яму характэрны нарцысізм і аўтарытарызм. Яму не проста прызнаць сябе лузерам. Тым больш у зеніце, здавалася б, сваёй палітычнай кар'еры. Вядома, што яе наступным этапам павінна была стаць кампанія за абранне Эрдагана прэзідэнтам.

***— Як пратэсты адлюстраваліся на стане турэцкай эканомікі?***

— Пакуль нічога асаблівага не адбылося: індэкс крэдытнага даверу да Турцыі застаўся дастаткова высокім. Аднак трывожныя з'явы таксама ёсць. Ходзяць чуткі пра тое, што некаторыя банкі пачалі паступова выводзіць грошы ў замежжа, баючыся напльву жадаючых зняць свае сродкі. На карысць панічных настрояў і старыя прагнозы эканамістаў пра тое, што цяперашні бум у будаўнічым бізнэсе — бурбалка, якая можа ў любы момант выбухнуць. Таму эскалацыя пратэстаў вельмі небяспечная для эканомікі. Не дарма адна з вядучых газет пракаментавала ваяўнічыя дэкларацыі прэм'ера ў аэрапорце словамі: «Прэм'ер падпальвае Турцыю». З улікам сказанага ўсе прагназуюць хуткі раскол у шэрагах урадавай партыі на фракцыю рэакцыянераў і групоўку прагматычных апаратчыкаў. Апошнія будуць схіляць Эрдагана да адстаўкі. Прынамсі ўжо зараз некаторыя людзі з яго атачэння крытыкуюць лідара АКР за тое, што ён стаў лабістам будаўнічых кампаній.

***— У інтэрнэце актыўна абмяркоўваюць варыянт падзей у выпадку, калі Эрдаган адмовіцца сысці. Кажуць, што тады з-за растучага палітычнага хаосу армія можа здзейсніць вайсковы пераварот.***

— Эрдаган і яго партыя тройчы запар перамагалі на выбарах, у тым ліку і таму, што туркаў дасталі дыктатуры вайскоўцаў, якія перыядычна разганялі цывільны ўрад. Эрдаган расправіўся з генераламі, аднак цяпер ён сам хоча стаць генералам, што не падабаецца людзям. Таму вайсковы пераварот у нашым выпадку — не выйсце з сітуацыі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

У беларускіх чыноўнікаў цяпер развязаныя рукі. Яны і раней патрабавалі забараніць канцэрты «Рамштайн», Мэрыліна Мэнсана і Элтана Джона. З гэтага часу гэта зрабіць надзвычай проста: абвясціў групу «ідэйна чужой» — і справе канец. Акрамя таго, можна ўжо не папаўняць чорныя спісы забароненых музыкаў, дзе значацца беларусы «Ляпіс Трубяцкой», расійскія ДДТ і «Сплін». Ну а беларускай моладзі даводзецца ездзіць на канцэрты зорак у Расію ці Латвію. Што таксама не бяда — амаль усе «прасунутыя» беларусы даўно ўжо аддаюць перавагу не жыць у адной краіне з бацькам.

**«Невское время» (Расія)**

Трэба прызнаць, што беларуская дзяржава функцыянуе даволі эфектыўна. Гэта тычыцца не толькі культуры і ідэалогіі (апошняя тут не толькі існуе, але і мае цца афіцыйныя структуры, якія курыруюць дадзеную сферу), але і значна больш прыземленых рэчаў. За час працы медыяфоруму мы праехалі не адну сотню кіламетраў. І ўсюды — не толькі на асноўных аўтатрасах, але і ў глыбінцы — уздоўж бязмежных насычана-жоўтых рапсавых палёў і багатых лясоў цягнуцца проста ідэальныя па расійскіх мерках дарогі. Адчуваецца, што ў гэтым беларусы — не зусім рускія. Ці рускія, але якія дзіўным чынам здолелі зжыць нашу шматвяковую бяду.

**«Культура» (Расія)**

Эксперты тлумачаць цікавасць Мінска да дыялогу з Еўропай эканамічными праблемамі і ўзмацненнем ціску з боку Расіі з нагоды прыватызацыі. На гэтым тыдні стагнацыю ў эканоміцы прызнала нават Міністэрства эканомікі. «Ключавыя сектары эканомікі не дэманструюць росту ВУП... Ва ўсіх відах эканамічнай дзейнасці ў студзені-красавіку бягучага года адзначаецца тэндэнцыя запавольвання тэмпаў росту», — гаворыцца ў аглядзе міністэрства. Пра інфляцыйныя рызыкі папярэджваюць і міжнародныя эксперты. У прыватнасці, да 30% інфляцыі ў Беларусі прагназуюць аналітыкі Еўразійскага банка развіцця.

**«Независимая газета» (Расія)**

Наогул, тэма гомасэксуалізму і лесбіянства ў краінах Еўрасаюза і ЗША перыядычна падымаецца афіцыйным Мінскам у адказ на крытыку стану правоў чалавека ў Беларусі. Еўрапейцы кажуць Лукашэнку, што дрэнна, калі разганялі ліберальны натоўп. А Лукашэнка ім адказвае, што дрэнна, калі жэніцца мужыкі, а вы б'яце нармальных людзей. Так што ў грамадзян Францыі і ўсёй Еўропы ўжо ёсць салідны абаронца і заступнік у асобе непахіснага Лукашэнкі. Мяркуем, і маральная падтрымка беларускага лідара ўжо шмат што значыць для пакрыўджаных французаў.

**«Национальная идея» (Арменія)**

Паўторная заява міністра абароны Расіі Сяргея Шайгу, якая была зробленая ім 4 чэрвеня ў Мінску пра базаванне ў хуткім часе палка расійскіх ВПС у Беларусі і пра пошук адпаведнага аэрадрома, ёсць сведчаннем таго, што беларускае кіраўніцтва паступова губляе рычагі вядзення самастойнай знешняй палітыкі. Спадзеючыся на далейшыя расійскія крэдыты і прэферэнцыі для ўмацавання ўласнай улады ў абмен на дыслакацыю трэцяга па ліку ваеннага аб'екта Расіі, Лукашэнка ўцягвае Беларусь у сферу ваенных гульняў Крамля з Захадам.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. ПРАВАСЛАЎНЫЯ ФУНДАМЕНТАЛІСТЫ АСУДЗІЛІ РАЗВОД ПУЦІНЫХ

Разрыў шлюбу паміж Уладзімірам і Людмілай Пуцінымі паставіў Рускую Праваслаўную Царкву ў няпростае становішча. Як вядома, паводле праваслаўных канонаў, такая практыка не вітаецца. З іншага боку, цяжка ўзгадаць, калі ў сучаснай Расіі царква мела мужнасць крытыкаваць уладу. У такой сітуацыі клір РПЦ, здаецца, вырашыў прамаўчаць. Прынамсі пакуль ніводнага каментара накont этычнасці паводзін Уладзіміра Пуціна, верніка РПЦ, не было. А вось радыкальнай фракцыі праваслаўя, якая не фінансуецца дзяржавай, губляць няма чаго. Таму яе прадстаўнікі ахвотна крытыкуюць учынкі Пуціна. Так, напрыклад, Саюз праваслаўных брацтваў заявіў вуснамі свайго каардынатара пра тое, што «праваслаўны прэзідэнт Пуцін паказаў ганебны прыклад». Асабліва адзначаецца тое, што развод адбыўся на фоне таго, што Расія і так сусветны рэкардсмен па колькасці разводаў. Дасталася ад фундаменталістаў і кіраўнікам РПЦ. На іх думку, тактыка маўчання адносна паводзін кіраўніка Расіі адмоўна



ўплывае на аўтарытэт храму. Так гэта ці не, сказаць цяжка. Аднак усе сацыёлагі згодныя з тым, што сярод жанчын сярэдняга ўзросту рэйтынг Пуціна дакладна знізіцца. Асабліва, калі бліжэйшым часам у яго з'явіцца новая жонка. Некаторыя выданні лічаць, што развод ёсць першы крок у гэтым накірунку.

**Паводле расійскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. АНАРХІСТЫ ПАГРАЖАЮЦЬ УЗАРВАЦЬ ДАМБЫ

На нямецкім анархісцкім партале Indymedia з'явілася незвычайная заявы групы, якая называе сябе Flut-Brigade (Брыгада патоку). Групоўка заяўляе пра намер арганізаваць тэракты на дамбах у паўднёвай Германіі (зона, што была ахопленая паводкамі), каб «апусціць Германію, або прынамсі яе частку, на дно». «Для нас дыверсія — не проста слова. Па гэтай прычыне мы паставілі перад сабой задачу — арганізаваць руйнаванне нямецкіх нацыянальных плацін і дамбаў», — пішуць сябры Flut-Brigade. Сваю нянавісць да дзяржавы каманда тлумачыць тым, што нямецкая дзяржава, быццам, з'яўляецца нашчадкам Трэцяга рэйху. Калі верыць той жа заяве Flut-Brigade, яе баевікі ўжо арганізавалі паломкі на трох дамбах, якія, па словах аўтараў заявы, «дапамаглі павялічыць плошчу бясплатнага басейну пад назвай Германія». Праўда, пра якія дамбы ідзе размова, не зразумела. Хаця інфармацыя ад Flut-Brigade нагадвае прыкол, рэгіянальныя правыя палітыкі ахвотна пачалі разважаць пра пагрозу ад левых тэрарыстаў. Адзін з кансерватыўных дэпутатаў Саксоніі ўжо патрабаваў павялічыць штат ахоўнікаў на дамбах і пачаць іх паветранае патруляванне.

**Паводле нямецкая прэсы**

### УЗБЕКІСТАН. ПОЎНАЯ БІЯМЕТРЫЗАЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА

Ва Узбекістане адбываецца адна з самых абсурдных рэформаў у гісторыі не толькі краіны, аднак, напэўна, і СНД. Ідзе татальны абмен старых пашпартоў на новыя, у якіх таксама ёсць біяметрычныя дадзеныя ўладальніка. Прычына абмену — без біяметрычнага пашпарту нікуды. Без біяметрычных пашпартоў сталі неахвотна выпускаць за мяжу, дылеры адмаўляюцца прадаваць новыя сім-карты для мабільнікаў, натарыусы не рэгіструюць здзелкі куплі-продажу кватэр, у абітурыентаў не бяруць дакументы. Больш таго, ад бюджэтнікаў і студэнтаў патрабуюць замяніць пашпарты пад пагрозай звальнення. У выніку ў аддзяленнях МУС ажыятаж. Самае смешнае, што пашпарт, паводле закону, можна мяняць да 2015-га года ўключна. Адзіная думка, якая ўзнікае ў экспертаў, — уладзе тэрмінова трэба грошы. Паколькі для абмену патрэбна заплаціць каля 15 долараў, у маштабе ўсёй краіны атрымліваецца салідная дапамога для бюджэту.

**Паводле ўзбекскай прэсы**

### МАЛДОВА. АРМІЯ ЗАСТАЛАСЯ БЕЗ СЦЯГА

Знакавы крадзеж здзейснены ў Кішынёве. У ноч на 6 чэрвеня з будынку Мінабароны Малдовы скралі галоўны сцяг. Нягледзячы на тое, што будынак Міністэрства ахоўваюць падраздзяленні ўзброеных сілаў, і сам будынак з'яўляецца рэжымным аб'ектам, зламыснікі ўмудрыліся прабрацца ўнутр. Следчыя органы адмаўляюцца каментаваць тое, што адбылося. Між тым, ёсць версія, што тут працуе серыйны злодзей. Справа ў тым, што апошнім часам у краіне адбыўся шэраг падобных інцыдэнтаў. З афіцыйных установ таямніча знікаюць нацыянальныя сцягі. Так, у тую ж ноч на 6 чэрвеня знік малдаўскі трыкалор, які быў усталяваны каля сталічнай мэрыі. Правая прэса піша, што тут яўна замешаны фанатычны камуніст або панславіст, які ненавідзіць малдаўскую дзяржаўнасць. Левыя СМІ ў сваю чаргу мяркуюць, што адсутнасць атрыбутыкі адпавядае прававой сітуацыі, якая склалася пасля красавіцкіх беспарадкаў у Кішынёве ў 2009 годзе. Тады невядомыя знішчылі арыгінал Дэкларацыі аб незалежнасці Малдовы.

**Паводле малдаўскай прэсы**

КАРУПЦЫЯ

# О, СПОРТ, ТЫ — КАРУПЦЫЯ!

**Алег НОВІКАЎ**

**Згадваючы леташні еўрапейскі футбольны турнір, украінская прэса робіць адназначную выснову: такія маштабныя спартовыя мерапрыемства грамадзянам постсавецкіх краін каштуюць больш, чым ліквідацыя наступстваў катастрофаў.**

Беларускія турысты, якія часта лятаюць з кіеўскага аэрапорта Барыспаль, напэўна, звярнулі ўвагу на адну непрыемную інавацыю. Прыкладна з мая кошты на транспарт, што дастаўляе людзей з гораду да тэрміналаў, выраслі ўдвая — з 25 да 40 грыўняў (5 долараў). Пабачыўшы грымасу пасажыраў, таксісты вымушаны былі апраўдвацца: «Гэта не мы, гэта ўсё Еўра».

Аказваецца, адміністрацыя барыспальскага аэрапорта ўзяла перад чэмпіянатам Еўропы па футболу прыкладна 9 мільярдаў грыўняў (мільярд долараў) на рэканструкцыю і будаўніцтва дадатковага міжнароднага тэрмінала. Стаўка рабілася на той самы футбол, які меў спачатку прыцягнуць фанатаў, а пасля новую хвалю турыстаў, якія зацікавіцца праз футбольныя трансляцыі Украінай.

Аднак калькуляцыя аказалася кепскай. Паводле статыстыкі, Барыспаль загружаны ў сярэднім толькі на 33 працэнты. Яшчэ больш сумны малюнак у іншых аэрапортах, якія таксама будаваліся пад Еўра–2012. У Львове загружанасць — 8 працэнтаў, а ў Данецку — 10 працэнтаў. Дарэчы, у Данецку аэрапорт будавалі ўвогуле з разлікам на тое, што ён стане паветраным мостам паміж Еўропай і Азіяй. Цяпер зразумела, што ніякага моста не будзе. Нават палякі прыпынілі палёты ў Данбас.

Між тым, даўгі трэба аддаваць. Вось і даводзіцца ў тым жа Барыспалі павышаць плату за паркоўку каля ўваходу ў тэрмінал, які з-за сваёй пустэчы чымсьці нагадвае Мінск–2.

Аэрапорт Барыспаль — адзін з самых вядомых прыкладаў у дыскусіі, якая разгарнулася на старонках украінскай прэсы вакол пытання: што даў Украіне леташні футбольны турнір? Адказы на гэта пытанне наступныя: «Для краіны ў цэлым Еўра–2012, безумоўна, — эканамічны ўдар, паколькі размовы аб замежных фундатарах так і засталіся размовамі, а ўсе ўкладзеныя грошы — гэта, па сутнасці, адарваныя ад сацыялкі і іншых важных для насельніцтва праграм. Для дробнага бізнэсу чэмпіянат павярнуўся каласальнымі паборамі, а ў шэрагу выпадкаў нават згортваннем прадпрымальніцкай дзейнасці» («Главное»). «Праз год стала ясна, што дзяржава пабудавала чарговыя «пацёмкінскія вёскі» з неапраўдана разадзьмутымі каштарысамі, якія наўрад ці калі-небудзь акупяцца. Больш за тое, сёння яны патрабуюць дадатковых фінансавых уліванняў» («Тиждень»).

З новым стадыёнам «Украіна» (Львоў), на якім за ўсю яго гісторыю згулялі ўсяго 10 матчаў, сітуацыя настолькі крытычная, што ў львоўскім гарсавеце прапанавалі разабраць канструкцыю на будаўнічыя матэрыялы, якія пасля можна было б прадаць. Цяпер стадыён перадалі на баланс Міністэрства моладзі.

Адразу ўзнікае пытанне: хто планаваў такія гіганцкія праекты і нашто? Няўжо арганізатары не ведалі пра вопыт Партугаліі, якая прымала еўрапейскі чэмпіянат, і Грэцыі, якая выступіла гаспадаром Алімпіяды 2004 года?

Акрамя таго, на час падрыхтоўкі да Еўра–2012 было зразумела, што пачаўся крызіс, і надзеі на турыстычны бум — марныя. Як прызнае часопіс «Фокус»: «Украіна ў вачах сусветнай супольнасці выглядае нават горш, чым да турніру. Карупцыя, выбарачнае правасуддзе, аўтарытарны рэжым, а зусім не гасціннасць і ветлівасць — асноўная тэма публікацый заходніх СМІ пра Украіну».

Але калі меркаваць па пуб-



лікацыях, самае вялікае расчараванне ўкраінцаў ад Еўра–2012 — стан аўтадарог. Аказалася, што большасць пабудаваных да чэмпіянату дарог не вытрымалі зімы. Праўда, засталіся сапраўды якасныя трасы Кіеў — Чоп і Кіеў — Харкаў, але гэта толькі 2% дарожнай сеткі Украіны. Затое выплаты па крэдытах, узятых на рэканструкцыю старых, робяць немагчымым будаўніцтва новых дарог — у бліжэйшыя гады магчымы толькі рамонт ямаў.

Медыя адзначаюць, што за ўкраінскай гігантаманіяй Еўра–2012 стаяў банальны карупцыйны складнік: узвядзенне буйных канструкцый дазваляла прымножыць сумы адкатаў у каштарысах амбіцыйнага праекта. Натуральна ўзнікае пытанне, што робяць пракуратура і следчыя органы? Яны сапраўды не спяць.

Так, з пачатку гэтага года пракуратура Львоўскай вобласці ўзбудзіла каля 10 крымінальных спраў па фактах злоўжыванняў службовых асоб з фірмы «Дырэкцыя па будаўніцтве аб'ектаў Еўра–2012 ў Львове», іншых распарадчыкаў бюджэтных сродкаў і прадпрыемстваў-падрадчыкаў. Агульная сума нанесенай дзяржаве шкоды па названых справах складае амаль 10 мільёнаў грыўняў (больш за мільён долараў).

Паводле справаздачы міжнароднай няўрадавай арганізацыі Freedom House, украінскія чыноўнікі прысвоілі траціну бюджэту, прадугледжанага на падрыхтоўку і правядзенне чэмпіянату Еўропы па футболе ва Украіне ў 2012 годзе. Усяго, для даведкі, на падрыхтоўку турніру пайшло 5,5 мільярда еўра з бюджэту. Такія гіганцкія патокі грошаў не маглі прайсці па-за кантролем чыноўнікаў вышэйшага рангу.

Уся эпапея з Еўра–2012 выклікае лагічнае пытанне: ці не паўторыцца тая ж гісторыя ў Мінску, які збіраецца прыняць у наступным годзе чэмпіянат свету па хакею? Калі і паўторыцца, то гэта будзе бледная копія зімовай Алімпіяды ў Сочы. Роўна за год да старту Алімпіяды–2014 у Сочы ўлады афіцыйна абвясцілі бягучы кошт усіх выдаткаў, вылучаных на будаўніцтва і арганізацыю правядзення гульняў, і гэта апынулася рэальна неверагодная сума — больш за 1,5 трыльёна рублёў, або 50 мільярдаў долараў. Неймаверны рост выдаткаў на падрыхтоўку да Алімпійскіх гульняў можна растлумачыць толькі «татальнай» і беспрасветнай карупцыяй, распіламі і крадзяжамі.

**Украінскія чыноўнікі прысвоілі траціну бюджэту, прадугледжанага на чэмпіянат Еўропы па футболе ў 2012 годзе**

Блогеры падлічылі, што замест растраты 1,5 трыльёна рублёў у Расіі можна было б пабудаваць у кожным буйным горадзе 1100 басейнаў; крытых лядовых палацаў з штучным лёдам; стадыёнаў на 10 тысяч гледачоў і фізкультурна-аздараўленчых комплексаў. Дадаткова кожнаму (!) расейцу набыць электронную скакалку з убудаваным лічыльнікам скачкоў; усім грамадзянам ад 5 да 25 гадоў падарыць па пары добрых ролікавых канькоў; усім мужчынам Расіі — па футбольным і баскетбольным мячы і пары хакейных канькоў, а кожнай расійскай жанчыне — валейбольны мяч і пару фігурных канькоў. Адзін факт таго, што дарога ад Адлера да Чырвонай Паляны даўжынёй усяго толькі 48 кіламетраў каштавала падаткаплацельшчыкам «дзікай» сумы ў 260 мільярдаў рублёў, наводзіць на жудасныя думкі. Атрымліваецца, што адзін кіламетр трасы каштуе больш за 5 мільярдаў рублёў (паўтара мільярда долараў ЗША)! Для параўнання, у мінулым годзе амерыканцы адправілі на Марс касмічны апарат. Увесь гэты праект (запуск ракеты + марсаход) абышоўся Штатам у тры з лішнім разы танней.

ЦІКАВА

# СУПЕРМЭН СУПРАЦЬ ГІТЛЕРА

Алег НОВІКАЎ

**Сусветная прэм’ера фільма «Чалавек са сталі» пра прыгоды Супермэна — добрая нагода ўзгадаць ролю супергероя ў амерыканскай і сусветнай палітыцы.**




Маісей, Ісус, герой фільму Робін Гуд у выкананні актора Дугласа Фэрбенкса, зорка бейсболу 1930-х гадоў Бейб Рут… Гэтыя персанажы і людзі называліся галоўнымі прататыпамі Супермэна. Быццам, нехта з іх натхніў у 1938 годзе мастака Джэры Сігала і пісьменніка Джо Шустэра прыдумаць чалавека з літарай S на грудзях. Так ці інакш, у выніку з’явіўся канцэнтраваная ідэя ідэальнага амерыканца. Па-першае, Супермэн — імігрант (як вядома, ён паходзіць з далёкай планеты). Па-другое, ён, нягледзячы на свае таленты, сам зарабляе сабе на жыццё, працуючы клеркам у нейкай рэдакцыі. І, нарэшце, у яго маральныя якасці ідэальнага грамадзяніна: ён актыўна рэагуе на ўсе праявы несправядлівасці.

Коміксы з прыгодамі Супермэна адразу заваявалі рынак. Аднак аўтараў цікавалі не толькі грошы. Абодва яны паходзілі з сем’яў яўрэйскіх імігрантаў, і, відавочна, цікавіліся тым, што адбываецца ў Еўропе, дзе набываў сілу ваяўнічы антысемітызм. Калі за акіянам пачалася вайна, стваральнікі Супермэна вырашылі падключыць да барацьбы з фашыстамі свайго героя.

У лютым 1940 года часопіс «Look» апублікаваў гісторыю «Супермэн кладзе канец вайне». У коміксе распавядалася пра тое, як Супермен дапамагае французам прарваць лінію Зігфрыда (нямецкі абарончы комплекс уздоўж мяжы з Францыяй). Паводле сюжэта, Супермэн за кошт сваёй фантастычнай сілы разбурае фартыфікацыі немцаў, што дазваляе французскаму войску прарвацца ў германскі тыл. Потым наш супергерой адпраўляецца ў Берлін, каб захапіць у палон Гітлера. Аднак аднаго фюрэра яму мала. Ён адразу адпраўляецца ў Маскву, каб знайсці там Іосіфа Сталіна. Пасля Супермэн дастаўляе салодкую парачку, якая, паводле яго слоў, нясе адказнасць за вайну, у трыбунал Лігі нацый.

Комікс пра перамогу Супермена над Сталінам і Гітлерам адразу выклікаў вялікі скандал. На той час амерыканскія палітыкі ўстрымліваліся ад таго, каб улазіць у вайсковы канфлікт у Еўропе. Прыхільнікі нейтралітэту і нямецкая дыяспара пабачылі ў публікацыі адкрытую правакацыю.

Аднак куды больш былі расчараваныя коміксам у Берліне, дзе Супермэн доўгі час лічыўся стандартам арыйскай расы. Хутка ў часопісе «Das Schwarze Korps», што выходзіў пад дахам SS, быў апублікаваны артыкул пра прыроду феномена Супермэна. На думку аўтара публікацыі, Супермэн атручвае атмасферу, у якой жывуць амерыканскія падлеткі, паколькі гэты комікс вырабляюць яўрэі. Яшчэ далей пайшоў міністр прапаганды Ёзэф Гебельс, які ў адной са сваіх прамоў у Рэйхстагу прамым тэкстам заявіў, што «Супермэн — яўрэй».

Апісаная гісторыя падштурхнула фашыстаў выдумваць свой эрзац амерыканскай індустрыі коміксаў. Тым больш, на гэты момант усе разумелі значную ролю дзіцячай літаратуры для сацыяльнай інжынерыі. У Германіі эрзацам амерыканскіх коміксаў сталі часопісы «Bilder Bogen von Kriegen». Праўда, асноўнага героя ў «Bilder Bogen von Kriegen», у адрозненне ад амерыканскіх коміксаў, не было. Як правіла, у кожным выпуску ў малюнках распавядаўся нейкі эпізод баявых дзеянняў, пераможцамі ў якім былі, зразумела, салдаты Вермахту.

Між тым, адбыўся Перл-Харбар. Пасля ўступлення ЗША ў вайну ўсіх амерыканскіх супергерояў адразу «мабілізавалі» на фронт. Супермен, а таксама іншыя супергероі — Капітан Амерыка, Бэтмэн і нават мультыплікацыйны персанаж Мікі Маўс — пачалі ваяваць з нацыстамі. Кажуць, што менавіта Франклін Рузвельт прыдумаў палітызаваць коміксы. Гэта была частка дзяржаўнай стратэгіі на тое, каб зрабіць паўсядзённую масавую культуру своеасаблівай формай прапаганды.

Ідэя адправіць Супермэна і яго калег на вайну спрацавала. Паводле падлікаў амерыканскіх культуролагаў, самыя вялікія тыражы коміксаў у ЗША мелі месца якраз у часы вайны. Відавочна, што сам жанр быў вельмі запатрабаваны на фоне шматлікіх праблем, якія выклікала вайна. Акрамя таго, усе сюжэты гісторый заканчваліся абавязковай перамогай супергерояў над праціўнікамі-нацыстамі, гэта ўзмацняла надзею на тое, што перамога непазбежная.

Пасля перамогі інтарэс да коміксаў рэзка ўпаў. Некаторыя персанажы нават зніклі з-за таго, што кампаніі, якія выдумлялі пра іх коміксы, сталі банкрутамі. Супермэну, які на той час стаў адным з сімвалаў амерыканскага ладу жыцця, такі лёс не пагражаў. Гісторыі пра яго прыгоды працягвалі выходзіць, а яго самога час ад часу адпраўлялі ў гарачыя кропкі. Напрыклад, адзін з выпускаў быў прысвечаны прыгодам Супермэна ў вайне на Карэйскім паўвостраве.

А вось на вайну з Іракам Супермэн не трапіў, хаця туды адправілася цэлая брыгада супергерояў — Чалавек-павук, Капітан Амерыка. Магчыма, справа ў тым, што правы на Супермэна належаць кампаніі «DC Comics». Кіраўніцтва «DC Comics» аказалася менш патрыятычным, чым дырэкцыя кампаніі «Marvell» (уладальнік брэндаў «Чалавек-павук» і «Капітан Амерыка»). «Marvell» у час іракскай вайны разам з Мінабароны запусціў серыю «America support you» пра тое, як супергероі дапамагаюць амерыканскім салдатам перамагчы Садама.

Дарэчы, Садам таксама ўздымаў баявы дух сваіх салдат за кошт коміксу пра супергероя. Праўда, галоўным героем іракскіх маляваных гісторый быў не выдуманы персанаж, а сам дыктатар. Хаця гэта ўжо не было ноў-хаў. Раней, напрыканцы мінулага стагоддзя, у Венесуэле выходзілі коміксы, галоўным героем якіх быў Уга Чавес. Узброены бейсбольнай бітай, намаляваны Уга жорстка караў усіх, хто не жадаў жыць адпаведна з прынцыпамі нядаўна прынятай т.зв. баліварыянскай канстытуцыі.

Можна лёгка заўважыць, што Суперчавес — гэта падробка пад Супермэна. Імпартаваць вобраз Супермэна і надаваць яму мясцовы каларыт — вельмі папулярная рэч. Так, у Ізраілі сярод правага электарату вельмі папулярны ізраільскі Супермэн, якога завуць Шаломэн. Шаломэну па сюжэту коміксаў галоўным чынам даводзіцца даваць прыкурыць арабскім тэрарыстам, якім, у сваю чаргу, часта дапамагаюць розныя дыпламаты з пацыфісцкімі забабонамі.

Застаецца задаца пытаннем: ці нясе нейкую палітычную місію фільм «Чалавек са сталі», які выйшаў на экраны 14 чэрвеня? Калі меркаваць па анатацыях, гэта хутчэй псіхалагізаваны трылер. Праўда, палітычны падтэкст усё роўна прысутнічае. Справа ў тым, што «Чалавек са сталі» выходзіць у часы крызісу, а першыя коміксы пра Супермэна таксама пабачылі свет у часы Вялікай дэпрэсіі. І хаця пра палітыку там не было ні слова, людзі ўспрынялі супергероя як прапагандыста «Новага курсу» Франкліна Рузвельта, паколькі ён даваў людзям надзею на лепшае. Паглядзім, што атрымаецца ў стваральнікаў «Чалавека са сталі» рэжысёра Зака Снайдэра і прадзюсара Крыстафера Нолана.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### КРЫСЦІНА КІРШНЕР



З ініцыятывы прэзідэнта Аргенціны яе прыхільнікі пачалі з мінулага тыдня кантраляваць кошты ў крамах. Робіцца гэта самым прымітыўным спосабам: людзі ходзяць па гандлёвых кропках і запісваюць у сшыткі ўсе лічбы на цэнніках 500 тавараў, якія прызнаны сацыяльна значнымі. У выпадку, калі лічбы на цэнніках большыя, чым устаноўлена законам, валанцёры прэзідэнта паведамляюць куды трэба. У адміністрацыі сапраўды вераць, што за кошт такога грамадзянскага кантролю можна будзе спыніць рост коштаў як мінімум на тыя самыя 500 тавараў асноўнага спажывання і, адпаведна, прыпыніць рост інфляцыі, якая з пачатку года склала 23 працэнты. Перш за ўсё, інспектары-перапісчыкі звяртаюць увагу на гандлёвыя кропкі, які належаць іншаземцам, накшталт сетак супермаркетаў кампаній «Carrefour» або «Wal-Mart». Лічыцца, што замежныя спецслужбы, працуючы праз згаданыя фірмы, могуць падарваць стабільнасць. Між тым, правая апазіцыя крытыкуе ідэю, у тым ліку звяртае ўвагу на тое, што практычна тым жа самым займаўся Hitlerugend (маладзевая структура германскай партыі нацыстаў) у часы дэпрэсіі, з той розніцай, што адказнасць за рост коштаў тады ўскладалі не на замежных гандляроў, а на яўрэяў.

### АЛЕНА МІЗУЛІНА



Дэпутат Дзяржаўнай Думы Расіі ад партыі «Справядлівая Расія», кіраўнік камітэту па пытаннях сям’і знайшла ідэальную формулу ячэйкі грамадства для Расіі. Падпарадкаваны ёй камітэт прапанаваў Канцэпцыю дзяржаўнай сямейнай палітыкі да 2025 года. Асноўны тэзіс: варыяцыі формаў прыватных адносін паміж прадстаўнікамі постіндустрыяльнага грамадства — небяспечны міф. Паўнавартасная сям’ёй, паводле Мізулінай, будзе лічыцца толькі сям’я з трыма дзецьмі, прычым тая, якая пражывае ў адной кватэры з іншымі сваякамі, прычым у двух пакаленнях. Нашто маладой пары патрэбна жыць са старымі людзьмі? На думку Мізулінай, тое, што маладым бацькам з дзецьмі часта даводзіцца жыць у адной кватэры з цешчамі-свякрухамі і іншымі сваякамі, дабратворна адбіваецца на фармаванні маральнага аблічча чальцоў сям’і. «Шматгенерацыйная сям’я кампактнага пражывання» па вызначэнні Мізулінай, выклікае «моцны аўтарытэт бацькоўскай улады». Як адзначае антыпуцінская апазіцыя, фактычна Мізуліна заклікае ўрад адмовіцца ад будаўніцтва сацыяльнага жытла для маладых сямей, а яе канцэпцыя цудоўна падкрэслівае кансерватыўны паварот у палітыцы Крамля.

### МАЛЬКАЛЬМ ТЭРНБУЛ

Тэрнбул — адзін з лідараў аўстралійскай апазіцыйнай ліберальнай партыі і руху за ператварэнне Аўстраліі ў рэспубліку. 14 гадоў таму Тэрнбул і яго сябры-рэспубліканцы перажылі цяжкі ўдар. На рэферэндуме пра магчымы пераход на рэспубліканскі лад аўстралійцы вырашылі і далей заставацца паддаными англійскай кароны. За рэспубліку прагаласавала 45 працэнтаў удзельнікаў плебісцыту. І вось зараз Тэрнбул зноў даў старт новай кампаніі за рэферэндум. Пра пачатак кампаніі было абвешчана падчас прэзентацыі кнігі «Рэспубліканскі праект: план і аргументы за новую Аўстралію», якую напісаў сам Малькальм. На думку Тэрнбула, сёння самы зручны час для стварэння Аўстралійскай Рэспублікі, паколькі яе Вялікасць Елізавета Другая вельмі старэнькая. Яе хуткі сыход у лепшы свет, на думку палітыка, дае Аўстраліі ўнікальны шанс адмовіцца ад фармальнага падпарадкавання Лондану. Прэса асцярожна каментуе ініцыятыву Турнбула. На думку журналістаў, шмат што будзе залежыць ад таго, хто будзе нашчадкам Елізаветы. Калі карона пяройдзе да непапулярнага прынца Чарльза, аўстралійцы могуць прагаласаваць за рэспубліку. Аднак у выпадку, калі манархам стане прынц Вільям, рэспубліканцам зноў нічога не свеціць. Вільям і яго жонка Кейт вельмі папулярныя ў аўстралійскім грамадстве.



▸ **УСПАМІНЫ**

# НА САМЫМ РАНКУ

## ЯНКА КУПАЛА: «КАЛІ ПАЧУЕЦЕ, ШТО НЕШТА ЗДАРЫЛАСЯ СА МНОЙ, НЕ СМУТКУЙЦЕ»

Арсень ЛІС

**Горка і выразна помніцца той дзень канца лета 1971 года. Пабыўшы пару тыдняў у бацькоў, я вяртаўся на працу. Ішоў на станцыю, каб паехаць у Мінск. У душу ціха краўся сум ад развітання з родным домам, летам.**

Дзень быў пагодны. Трымцела марыва. Над не ачарсцвелым яшчэ аўсянішчам, зялёным з рэдкімі рудымі падпалінамі бульбоўнікам завісла смуга. У паветры, куды ні глянь — на дарозе і збоч яе, над палявым улоннем, мітусіліся купкамі цэлыя раі белых матылёў.

— На нешта ж яны варожаць, — сказаў знаёмы вётхаўскі дзядзька Валодзя Вусік, калі я параўняўся з яго калясьмі: стары ехаў на невялікім возіку атавы і адтуль дзіваваў на белую матыліную мітульгу.

Дарога да Мінска ад нас не лішне далёкая. Праз пару гадзін я быў ужо ў Зялёным лузе, у пад'ездзе свайго дома. Адкрыў паштовую скрынку, і з газет выпстрыкнула да ног пісулька. Не паспеў разабрацца ад каго, як жорстка ўдарылі словы: «...утапіўся Мікола Дзяжкевіч». Мяркуючы па даце, запіска чакала мяне дні тры. Не гледзячы на подпіс, здагадаўся, што балючую гэту вестку, якую адразу ні асэнсаваць, ні прыняць, прынёс Алесь Лабанок.

Год таму ён пазнаёміў мяне з Міколам. Пазней разоў колькі Мікола наведваўся да мяне адзін, аднойчы зайшоў з жонкай, папрасіўся占 паначаваць: на Харкаўскай дабудоўвалася яго трохпакаёвая кааператыўная кватэра, літаральна назаўтра яны збіраліся ў яе ўсяліцца. Апошні раз бачыліся на хаду. Спаткаліся ў горадзе. Адышліся крыху далей ад вулічнага тлуму і гулу. Прыселі на зялёнай рабрыстай лаўцы, непадалёк ад Круглай плошчы.

У руках у Міколы быў часопіс «Маладосць», дзе ён адразу вылучыў для сябе паэмку Ніла Гілевіча «Недзяленя». Паэзія была любоўю Міколы. Але не першай і не самай вялікай. Свет прыгожага яго хваляваў нязменна і быў для яго шырокі, можа неабдымны. Ды любіў ён перад усім тэатр, сцэнічнае слова.

Запаветная мара яго была стаць рэжысёрам... Мала помню з таго, што гаварылі мы з Міколам у нашу апошнюю сустрэчу. Памятаю толькі — гаварылі надоўга і не з такім смакам, як у ранейшыя нашы спатканні. Была для мяне тады скрушная часіна, і, калі б нейкі правідзец у той час раптам сказаў: «Неўзабаве аднаго з вас не стане», я б не сумняваўся, пра каго ідзе гутарка...

Адно, што помніцца з той апошняй сустрэчы, гэта Міколавы словы пра Купалу. Сваімі ўспамінамі пра апошнюю сустрэчу з Янкам Купалам Ларыса Пампеёўна Александроўская надоўга азадачыла майго сябра. Цяпер ён ізноў вярнуўся да гэтай тэмы, у якой была цяжкая загадка.


Мікола Дзяжкевіч


Арсень Ліс

Дацвіталі ліпы на праспекце. Мікола збіраўся ў сваё Наднямонне. Мы развіталіся без нейкай канкрэтнай думкі пра будучыню, не прадчуваючы, што ў аднаго з нас яе ўжо няма.

Таго вечара, аглушаны нечаканым горам, я паспяшаўся да свайго старэйшага сябра-суседа. Алесь жыў тут жа, у Зялёным лузе, праз вуліцу. Ён не так даўно вярнуўся з-пад Карэліч, з пахавання. З яго слоў даведаўся пра жахліва-недарэчнае здарэнне на Нёмане падчас купання. Купаліся Міколава жонка і братавая з дачкою. Мікола ляжаў на беразе, чытаў часопісы. А калі раптам раздаўся жаночы крык аб паратунку, рынуўся з высокага берага да купальшчыц, стоць галавой уніз. З купальшчыцамі нічога не здарылася. Крыху было сполаху, больш піску, а Мікола ўражаны з разгону, да таго ж ніцавокі, ударыўся галавой аб нейкі корч на дне, смяротна параніўся. Шура не хацеў гаварыць пра цяжкі абрад пахавання сябра, толькі абмовіўся крыху пра Міколаву маці, прыбітую горам, яе ўтрапенне, знешні спакой.

Неўзабаве мне давялося паехаць у Жалезнаводск. Там на самоце, блукаючы па горных сцежках, атуленых асеннімі барвамі і смуткам, гаварыў з Міколам як з жывым. Часта ён, адольваючы небыццё, прыходзіў да мяне падзяліць сум, пажурыцца над хуткаплыннасцю жыцця, няздзейсненымі марамі.

Мікола Дзяжкевіч загінуў зусім маладым. Тым часам ужо паспеў быў знайсці сваю дарогу ў жыцці. Дапамог яму ў гэтым Купала, спадчыннае слова Паэта. Студэнцкія гады Міколы прыпалі на сярэдзіну 1960-х. Хоць ужо паціху нехта тамаваў кола нашай гісторыі, з надзеяй адкруціць яго назад, жыватворны павеў, што быў у грамадскім жыцці канца 1950-х — пачатку 1960-х яшчэ адчуваўся. Расткі новага, незакамфармаванага мыслення прабіваліся скрозь. Жывая душа ўжо не жадала ці не магла паддацца рэгламентацыі, ведамасным загадам, патаемным забаронам.

Творцы, што не маглі зносіць раздвоенасці сумлення і абавязку, знаходзілі спосаб гаварыць праўду, хоць для гэтага часам даводзілася ім апранаць сваіх герояў у касцюмы іншых эпох, змяшчаць дзеянне ў прасторы і часе. У паэзіі важкае сталае слова сказаў Аляксандр Твардоўскі. У моладзі, здаецца, з'явіўся свой паэтычны кумір. Быў ім для многіх Яўген Яўтушэнка. У пранікнёных маналогах яго лірычных і эпічных герояў, адзначаных публіцыстычнай палымянасцю, шчырасцю, у іншасказаннях моладзь знаходзіла шмат свайго, сугучнага ўласным думкам і настроям. Прышлі свае першапраходцы і ў нацыянальныя літаратуры, у тым ліку і беларускую, але ні прарокамі, ні кумірамі іх ніхто назваць не спяшаўся. Проста яны рабілі цяжкую работу — аднаўлялі добрае імя пісьменніка — народнага заступніка, вярталі літаратурнаму слову давер чытачоў.

І ў студэнцкай аўдыторыі (Мікола вучыўся на бібліятэчным факультэце Мінскага педінстытута), і ў асяроддзі аматараў тэатральнай справы (працаваў у нейкай тэатральнай студыі) ён аддаў даніну захаплення Яўтушэнку, сучаснай замежнай паэзіі. Потым, — прызнаваўся аднойчы, — адчуў патрэбу абаперціся на нейкі бліжэйшы, родны грунт. Знайшоў яго ў Купалы. А неўзабаве творчасць беларускага баяна-песняра, Купалава жыццё сталі для Міколы не толькі прадметам цікавасці, але і прафесійным клопатам.

Літаратурны музей Янкі Купалы ў той час узначальваў Уладзімір Міхайлавіч Юрэвіч. Чалавек высокай культуры, таленавіты крытык патрапіў пераўтварыць Купалаў музей у дзейсны асяродак культуры. У музеі часта арганізоўваліся вечары самай рознай тэматыкі. Гучала Купалава слова і назіранні над ім, гучалі ўспаміны пра культурнае і навуковае жыццё Мінска паслярэвалюцыйных год. Музей стаў Домам Купалы і вабіў на свой агеньчык не адну жывую душу.

Не ведаю, не памятаю, як сышліся сцежкі Міколы і Уладзіміра Юрэвіча. Старэйшына нашай літаратуры, відаць, сам пра гэта згадае. Ведаю толькі адно пэўна: Мікола аказаўся вельмі патрэбны Купалаву музею, а музей яму. Тут Дзяжкевіч дзень пры дні мог спасцігаць урокі жыцця і творчасці Купалы. Паэт нязмушана вучыў любіць Беларусь, раскрываў духоўнае хараство простага чалавека-селяніна, сведчыў пра яго годнасць і правa.

Малады музейны работнік даў доказы арганічнага засваення Купалавых урокаў. Перш-наперш у шырокім сэнсе слова. І ў больш вузкім. Навукова-даследчыцкай руплівасцю. Дзяжкевіч, здаецца, у першы ж год сваёй працы ў музеі апублікаваў у «Полымі» даволі самавітае даследаванне. У час архіўных пошукаў яму ўдалося знайсці радавод Луцэвічаў. Вытокі паэтавага роду дакументальна зафіксаваныя дзесь ад пачатку XVII стагоддзя. Дзяжкевіч навукова пракаментаваў шчасліва знойдзены ім унікальны дакумент айчыннай гісторыі, гісторыі роду аднаго з найвыдатнейшых славянскіх паэтаў. Гэта была паважная пазіцыя, здабытая купалазнаўствам. Не адну старонку творчасці вялікага беларускага паэта абяцаў нанава прачытаць, адкрыць людзям, свету малады шукальнік.

Было яшчэ адно поле (я ўжо ўспамінаў яго), дзе Мікола шукаў прымянення сваім душэўным сілам, меў духоўную патолю. Гэта тэатр. Людзі сцэны валодалі яго ўяўленнем. Ён цягнуўся да іх як да таямнічага свету.

Помню, раз заглянуў да мяне пасля адведзін Барыса Віктаравіча Платонава. Рабіў накід літаратурнага партрэта артыста. Знешне стрыманы ў выказе пачуццяў, на гэты раз дазволіў сабе задзівіцца нейкімі рысамі інтэлігентнасці, духоўнасці артыста.

Міколу пашанцавала на тэатр. Сапраўдную сцэну. Міколава ранняе сталенне, узыходжанне амаль супала з хоць прыгожым, але ўжо заходам Купалаўскага тэатра. Цэлае сузор'е вялікіх талентаў яшчэ дзеяла-чарадзеіла на яго сцэне. Уладамірскі, Глебаў, Платонаў, Станюта, Ржэцкая, Дзядзюшка, Пола, Бірыла, Рахленка... Кожны — самавітая постаць з нейкімі асабліва адметнымі рысамі артыстычнага таленту, і разам — гарманічны ансамбль, мастацкая цэльнасць, адна плеяда.

Ужо тады не было ў тэатры пастаяннага, свайго рэжысёра. Даводзілася запрашаць некага на асобны спектакль, сезон. Перасталі рэпеціраваць на сваёй сцэнічнай мове — па-беларуску. А слова беларускае ў старэйшага пакалення тэатра гучала арганічна, мілагучна, ядрана. Маладосць купалаўцаў прыпала на дваццатыя гады — час маладога энергічнага ўзлёту нацыянальнай культуры. Вытокі духоўнай сілы магікан-купалаўцаў былі ў 1920-х гадах, іх атмасферы.

Гэту загадку нацыянальнай культуры Мікола яшчэ не паспеў разгадаць. Але адчуваў яе інтуітыўна. Шмат пра што задумваўся. Жыццё падказвала. Сустрэчы з людзьмі. І ў першы чарод — з людзьмі мастацтва.


Янка Купала


Ларыса Александроўская

Аднойчы адчуў, што Мікола забег не так сабе, як бывала іншы раз, калі заглядаў мімаходзь, прыхапіўшы, напрыклад, нейкую кніжку ці пласцінку з польскімі калядкамі ды запісамі песень французскай спявачкі. На гэты раз прыйшоў сабраны, строгі. Прыйшоў, каб падзяліцца загадкай. Нават канкрэтна спытаўся: «Як Вы думаеце?..»

Па-рознаму можна было растлумачыць Купалавы словы, сказаныя паэтам за два дні да трагічнай яго пагібелі Ларысе Александроўскай: «Ларысачка, калі пачуеце, што нешта кепскае здарылася са мной, не смуткуйце...»

Фаталізм? Адчайная рашучасць самому абарваць ніці з ужо ў нечым нясцерпным жыццём? Прадчуванне чагосьці такога, што насоўвалася няўхільна, немінуча? Чуў, што за ім ходзяць? Не ведаў, што гасцінічныя сцены маюць «вушы». Дазваляў сабе вольна выказвацца пра ўладу прыўлашчыўшых. Паўліна Мядзёлка ўспамінала сваё наведванне Купалы ў гасцініцы «Масква» адразу пасля яго прыезду ў сталіцу. Убачыла паэта страшэнна прыгнечаным. Стараючыся неяк падняць яго настрой, сказала: «Вось зараз увесь народ падымецца, адапрэ навалу...»

«Што? — ажывіўся паэт. — Народ будзе бараніць гэтых, якія здзекаваліся з яго горш за татара-манголаў?..»

Неяк раз давялося гаварыць з самавітым крытыкам, літаратуразнаўцам і мудрым чалавекам Рыгорам Саламонавічам Бярозкіным. Яго часам можна было спаткаць на падворку нашага дома па вуліцы Чарнышэўскага, 7. Чакаў, пакуль машыністка, наша суседка, дадрукуе яму чарговы тэкст. Я тым часам гуляў на той час з малым сынам. Няўзнак разгаварыліся і вышлі на неабыякавую ўсякаму нармальнаму чалавеку загадку Купалавай смерці. Пярэчу самавітаму літаратару: «Нашто было афіцыёзу фізічна знішчаць Купалу. Паэт ужо быў духоўна зламаны рэжымам. Прыняў правілы жорсткай прапанаванай імі гульні.

«Яны ведалі, што ён думае», — катэгарычна аднаскладна адказаў Рыгор Саламонавіч, які поўнай мерай зведаў на сабе абсурдную жорсткасць таталітарнай сістэмы.

МАСТАЦТВА

# ЯЎГЕН ЗАК І ЯГО ПАРЫЖСКАЯ ГАЛЕРЭЯ

Сяргей ГВАЗДЗЁЎ

**Ніводзін з мастакоў, што прыязджаў з Заходняй Беларусі ў 1930-я гады ў горад сваёй мары і мастацкай свабоды — Парыж, не мог абмінуць невялічкую галерэю, што месцілася на плошчы Сен-Жэрмэн-дэ-Прэ. І лічылі за гонар і абавязак выставіць тут свае творчыя набыткі.**



Група мастакоў на тэрасе Ратонды. У цэнтры — Яўген Зак. 1925



Яўген Зак у сваёй майстэрні. 1911



Жаночы партрэт работы Яўгена Зака

Мсціслаў Дабужынскі — мастак, які шмат бываў у Парыжы, а ў 1930-я гады меў тут сваю мастацкую школу. Па заканчэнні Кракаўскай Акадэміі дэманстраваў у галерэі свае дасягненні мастак з Тракенікаў Мар'ян Богуш-Шышка. Бываў і выстаўляўся тут некалькі разоў Язэп Горыд. Сваю павагу засведчыў галерэі і дыпламант Віленскага ўніверсітэта Кузьма Чурыла з Крутога Берага, што пад Новым Сновам.

Чым тлумачыцца той магнетызм, які прываблівў мастакоў да гэтага месца, знанага як галерэя «Зак»? Задужа проста было б вытлумачыць гэта адзіна вабнай постаццю маладой гаспадыні, мілавіднай шэравокай брунеткі Ядвігі Кон — мастачкі з Чэнстахова. З ёй Яўген Зак пабраўся шлюбам у 1913 годзе — годзе свайго «амерыканскага турнэ» — Нью-Ёрк, Чыкага, Дэтройт.

## Ад вытокаў Нёмана

Дзіця, народжанае ў чароўных мясцінах ля вытокаў Нёмана, што на Уздзеншчыне, рана, не паспеўшы наталіцца сокамі пупавіны, было адлучана ад маці. Здарылася бяда — заўчасная смерць бацькі, інжынера Савелія. І маці, Адаліна, уроджаная Кроненберг, у 1892 годзе мусіла адвезці малога з мястэчка Магільнае да сваякоў у Варшаву. Там ён і атрымаў першыя ўрокі малявання.

Далей мігцяць коламі вельмі насычаны, ярка індывідуальны шлях Яўгена Зака: адукацыя ў Школе вытанчаных мастацтваў у акадэміста Жэрома, навучанне ў Акадэміі Каларосі ў Альбера Бенара. Паездка ў Італію, вучоба ў мюнхенскай школе Антона Ашбэ. Зноў Парыж.

І шчаслівы карагод выстаў, з года ў год, па жыцці. Першыя з іх — выстава ў Восеньскім салоне, Салоне незалежных. Стварэнне серыі карцін у Брэтані і ўступленне ў Таварыства польскіх мастакоў, удзел у іх выставе «Мастацтва».

Пераможны ўдзел у Берлінскім Сэцэсіёне ў 1910 годзе і персанальная выстава ў галерэі «Друэ» ў Парыжы ў 1911 годзе. Аб грамадскім прызнанні Яўгена Зака сведчыць прызначэнне прафесарам Барселонскай і Мюнхенскай акадэміяў у 1912 годзе.

Ён спрабуе трохі ўтаймаваць сябе і час. Вызначыўшы мастацкую творчасць як асноўны накірунак, Яўген Зак ідзе наперад, сцвярджаючы асноўную тэму сваёй творчасці. Не істотна, з якой хуткасцю вы крочыце да мэты, галоўнае, што крочыце без перапынку!

Бунтоўны ўсплёск натуры з раптоўным ад'ездам сям'і ў Чэнстахоў, як і творчыя стасункі з «фармістамі» і кракаўскімі экспрэсіяністамі не прынеслі жаданага заспакаення і ўтаймавання.

Неўзабаве Зак з сям'ёю вяртаецца ў стаўшы яму родным Парыж. Перад тым, як у агульных рысах акрэсліць яго галоўны творчы плён, адзначым, што першая польская манаграфія (аўт. Стэфан Загорскі) аб творцы — вытанчаным эстэце і інтэлектуале, які зазвычай быў у гуморы і хіба зрэдзь паддаваўся меланхоліі ды настальгіі, выйшла ў 1927 годзе. У 1936 годзе манаграфіяй Максімільяна Гаўзэра ўганараваў Яўгена Зака і родны Парыж.

## Вяртанне на Манмартр

З'ехаўшы з Польшчы назаўжды ў 1922 годзе, у горад мрояў Яўген Зак трапіў не адразу. Вядомасць, якой ён валодаў, змусіла яго спыніцца ў Берліне, наведаць Бон, пакантактаваць з супрацоўнікамі рэдакцыі «Deutsche Kunst und Dekoration» і інш. Карацей, з калегамі і сябрамі — Маркам Шагалам і Зігмунтам Менкесам — ён пабачыцца толькі ў 1923 годзе. Тады ж здолеў працягнуць «філасофскія пасяджэнні» ў вольнай майстэрні пад назвай «Ратонда».

Наўрад ці варта даваць веры Іллі Эрэнбургу, які казаў, што яны цягнуліся ў славутую кавярню адзін да аднаго «бо іх радніла пачуццё агульнага недабрабыту». Іншым часам славутую «Ратонду», што месцілася ля чыгуначнага вакзала на бульвары Манпарнас, у вытоках вуліцы Мэн, літаральна паланіла так званая польская калонія. «Польская» не па этнічна-канфесійным вызначэнні, але традыцыйна «польская», у піку «рускай». Бо чым растлумачыць прысутнасць сярод польскіх «каланістаў» знанага французскага скульптара Эміля-Антонія Бурдэля ці літаратара з-пад Койданава Антона Патоцкага? З 1923 года сябрам польскай калоніі быў мастак, народжаны ў 1896 годзе ў Гародні — Іосіф Любіч.

Яўген Зак у гэтым асяродку адчуваў сябе камфортна.

## Плён

Яшчэ ў 1925 годзе адзін з тагачасных крытыкаў заўважыў, што вобразы, створаныя Закам, як след не арыентаваны на публічны паказ у музеях. Хоць і знаходзяцца яны ў дзяржаўных сховішчах Польшчы, Мастацкім інстытуце Чыкага, Цэнтры Пампіду і Музеі сучаснага мастацтва ў Парыжы, у Музеі Ізраіля ў Іерусаліме і Мастацкім музеі ў кібуцы Эйн Харод.

З аналізам творчасці Яўгена Зака да 1923 года можна пазнаёміцца ў першай паваеннай манаграфіі, падрыхтаванай Артурам Танікоўскім пры падтрымцы фонду Касцюшкі і фонду «Памежжа», што ў Сейнах, а таксама ў выданні «Гісторыя польскага жывапісу» Тадэвуша Дабравольскага. Нас жа цікавіць іншае…

Як пісаў беларускі гісторык мастацтва пра Яўгена Зака: «Мастак, які быў пад уплывам сімвалістаў і «Les Nabis» пад кіраўніцтвам Марыса Дэні… у сваёй творчасці аддаваў належнае і неакласіцызму, і арт-дэко, і, урэшце, экспрэсіянізму, праз які, у канчатковым выніку, прыйшоў да ўласнага кшталту. …Амаль не малюючы з натуры, усё зробленае ім, ён вынаходзіў у лабірынтах памяці і ўяўленнях».

> Яўген Зак усім сваім героям надае характэрныя рысы, што збліжаюць іх з правобразам, цэнтральным героем творчасці — Арлекінам

## За вакном

У 1920-я гады заходні інтэлектуал, «агульны дабрабыт» якога пагрозліва хіснуўся, не на жарт унурыўся ў пошук тэарэтычнага, інтэлектуальна-філасофскага грунту свайго існавання.

Маладыя і прагныя да ведаў, сквапныя на рэфлексіі заходнія інтэлектуалы і папоўніўшыя іх шэрагі неафіты з усяго свету досыць хутка заўважылі неабжыты абсяг, які вельмі і вельмі мог бы сысці за рэальны падмурак жыцця. Яны ўжо нацешыліся прагматычным «разумнікам» — Homo Sapiens, нагуляліся з філасофскай парадыгмай Homo Faber (Чалавек-Творца, Мудрэц), сцверджанага ў рабоце «Творчая Эвалюцыя» А. Берсана, якая дала магутны імпульс усяму еўрапейскаму мастацтву пачатку XX стагоддзя.

У 1920 гады грамадска-інтэлектуальныя сімпатыі схіліліся да Чалавека Гуляючага (Homo Ludens) прапанаванага канцэпцыяй нідэрландскага гісторыка і культуролага. Фундаментальныя даследы Ёхана Хейзінга (Johan Huizinga, 1872–1945) сцвердзілі глабальную канцэпцыю гульні ў якасці культурна-гістарычнай універсаліі і замацавалі яе непрамінальны сэнс у чалавечай цывілізацыі.

## Герой

«Гульня» як абсалютна дамінуючы (непрамінальны) фактар ва ўтварэнні культуры вымагае адпаведнага героя, які сам па сабе супрацьстаўляецца штодзённасці, прагматызму і чалавечай пошасці.

Яўген Зак знаходзіць яго ў «лабірынтах памяці і ўяўленняў». Яго герой — гэта паяц. Не толькі сцверджаны характар і схільны да ўсемажлівых дэфармацыяў у часе і прасторы, але і ўвогуле — герой сімвалічны, першапачаткова блізкі любому народнаму характару, у тым ліку сугучны і героям той зямлі, з якой паходзіў мастак.

Яўген Зак, творца стылізаваных еўрапейскіх побытавых сюжэтаў, усім сваім героям надае характэрныя рысы, што збліжаюць іх з правобразам, цэнтральным героем творчасці — Арлекінам.

Паяц-Арлекін — вясёлы і прасцякаваты слуга. Арлекін вельмі натуральна робіць глупствы і гэтак жа стаічна-ўсмешліва ўспрымае за іх пакаранне, мо таму ён і вымагае спачування да сябе і сваіх нягод і дзіцячых злыбедаў. На галаве ў яго востракутны капялюшык (шапачка), на поясе — кашэль. Абуты ў лёгкія чаравікі, якія дазваляюць яму нязмушана перасоўвацца ў прасторы і вырабляць акрабатычныя штучкі. Тыпалагічна блізкі да яго вобраз П'еро, таксама персанаж французскага народнага ярмарачнага тэатра. Але параўноўваць (тым больш атаясамліваць гэтых герояў) наўрад ці мажліва з прычыны прыналежнасці іх да розных нацсубкультураў. Занятак гэты можа стаць асобнай працай. У Францыі XIX стагоддзя Арлекін — сімвал шчаслівага кахання ў супрацьлегласць нешчасліваму П'еро.

Арлекін — самая папулярная маска італійскага тэатра плошчаў (камедыі дэль артэ), што трывала ўвайшла ў еўрапейскую поп-культуру. Нездарма яго вобраз мае шырокую распаўсюджанасць. У тым ліку ў такіх мастакоў, як Гоя, Ферэці, Сезан.

Зразумела, агульную змену інтэлектуальна-філасофскай парадыгмы нельга лічыць адзінавызначальнай. Выбар героя — больш складаны працэс.

Літаральна за некалькі гадоў сваёй апантанай творчасці ў гэтым накірунку Яўген Зак падараваў свету столькі Арлекінаў, што, калі б яны разам сабраліся з калекцыяў Мінска, Варшавы, Вроцлава, Познані і Шчэціна ды іншых прыватных і дзяржаўных зборах Еўропы і ЗША, дык атрымалася б ладная каманда. А калі дадаць да таго, што шэраг побытавых герояў Зака, якія дваістасцю сваіх характараў нагадваюць Арлекіна, тыпам вопраткі ці асобнымі яе элементамі непасрэдна паўтараюць яе (атрыбутуюць), то сувязь з культавым раманам XX стагоддзя «Гульня ў бісер» Германа Гесэ навідавоку. Нягледзячы на тое, што да выхаду рамана было яшчэ блізка 20 гадоў.

Крокі, зробленыя Яўгенам Закам, еўрапейскім мастаком з Заходняй Беларусі, не толькі значна прасунулі мастацтва наперад, але і вымагаюць больш грунтоўна засяродзіцца на вывучэнні яго творчасці.

КНІГАРНЯ

# НЕБА НАД БАГНАЙ

Андрэй РАСІНСКІ

**12 чэрвеня ў Інстытуце імя Гётэ адбылася прэзентацыя рамана Віктара Марціновіча «Сфагнум». Раман ужо з'явіўся ў сеціве і кнігарнях і задае наступальную стратэгію для сучаснай беларускай літаратуры. Гэта распаўсюд праз усе магчымыя каналы — і эстэтыка трансміфічнага рэалізму.**






## Атака на чытача

Трэцяя кніга пісьменніка прыйшла да чытача адразу і на рускай, і на беларускай мове. На рускай мове раман выкладзены на сайце *34mag.net* для вольнага прачытання. А «Сфагнум» пабеларуску, аздоблены густоўнай вокладкай, быў перакладзены Віталем Рыжковым — і хутка раскупляецца.

Сам аўтар у дасціпным сецевым роліку — яшчэ адна камунікацыйная вынаходка — запрашае азнаёміцца з творам. Калі выйшаў раман «Паранойя», Марціновіча папракалі за рускую мову; калі (адразу ў сеціве) — «Сцюдзёны вырай» — за беларускую. Двайная прэм'ера гангстэрска-містычнай трагікамедыі «Сфагнум» — не толькі адказ на папрокі, але і зварот да расколатай беларускай грамады.

## Беларуская тэрыторыя

Тры злачынцы забіваюць падзельніка, які ўцёк з чужымі грашыма. Грошыкі прысабечвае глуская міліцыя, у патыліцу дыхае расійская мафія; бэйбусы хаваюцца ў вёсцы — і звяртаюцца да ведзьмароў. Пазнаёмцеся з небаракамі: Серы, падобны да Дон Кіхота, «калі б не кітайскі спартовы касцюм «Адыдас»; гопнік Шульга, які ведае нават такое слова, як «аксюмаран»; і Хамяк — гультай і жмінда (з мараю быць гэбэшнікам).

Персанажы кнігі — як і героі «Акупацыі» ды «Масакры» Кудзіненкі — трызняць і вядуць двайное жыццё. Міліцыянт Выхухалеў бярэ за ўзор Віні-Пыха і спрачаецца з Богам пра справядлівасць, тутэйшы алкаш Кабан мае таленты Чэхава, вясковая цнатлівіца — русалка і німфаманка, а некаторыя героі, увогуле, фікцыя.

У мясцовым музеі ажываюць пудзілы лісаў, мядзведзяў і ваўкалакаў, пад багнай іскрыцца залаты горад, а былы афганец Сцяпан існуе адразу ў дзвюх прасторах (у п'яным і цвярозым выглядзе; ягоным напоям пазайздросціў бы Кастанэда).

Гэта беларуская тэрыторыя — з прыдуркаватай вертыкаллю і санітарамі, якія забіраюць хворых адразу ў трупярню, з Хатынню (дзікі маналог пра якую варты бабруйскай эстрады), і з туманам, дзе губляецца ўсё і ўся. Глеба правальваецца.

У паасобныя студні правальваецца героі рускамоўнай кнігі: студні мату, студні трасянкі, студні цыдаста-смешнага цвыркатання пра «псіхааналіз Лакана». У беларускім варыянце чорныя расколіны замаскаваныя інтанацыяй, гнюсныя словы (займеннікі: трындзёж, даўбацца, гамон) — абачліва падыткнутыя імхом. Выразней повязь сучасных забабонаў з фантазіямі Яна Баршчэўскага. Але і тут пад нагамі — сфагнум. Балота — усё тое ж балота «Дзікага палявання», і хутчэй экранізацыі, дзе героі сам-насам са зляканым грукатам сэрца.

Намаляваўшы гангстэрска-медытатыўную пагоню за зачараванымі скарбамі, Марціновіч задаецца пытаннямі: Хто мы такія? На што абапіраемся? Куды і адкуль ідзем? Што такое рэальнасць?

## Сцежкі трансміфічнага рэалізму

Сучасны беларускі абсурд патрабуе адпаведнай эстэтыкі. З дыктатарамі, каланіяльным становішчам і міфамі меў сталую справу магічны рэалізм з Лацінскай Амерыкі. Знакі магічнага рэалізму «параналяльна» выяўляюцца і ў першых кнігах Марціновіча.

Але кірунак, што складаецца ў Беларусі і рысы якога ясней праступаюць у «Сфагнуме», варта назваць трансмагічным, ці трансміфічным, рэалізмам.

Калі ў Лацінскай Амерыцы — буйныя джунглі, то ў Беларусі — ціхмяная багна. Экспрэсія Поўдня вязне ў беларускай маўклівасці. Беларусы — інтраверты: калі ёсць калектыўнае насланнё, найгалоўнае выпрабаванне — сваё і ў кожнага. У Беларусі — процьма лакальных вераў, якія чаруюць і прымаюцца за рэальнасць (вера ў сурокі, вера ў «парадак», вера ў «псіхааналіз»): і розныя стоды абрынаюцца ў бездань. Прадонні знітоўваюць забабоны чырвоназялёных шлюндраў і мудрых бабулек, віленскіх прафесараў на выгнанні і шклоўскіх гопнікаў.

І па-над усім гэтым — неба. Ёсць зямля — неба — пекла. Ёсць туга па небе; Боскае — гэта і ёсць рэальнасць.

Трансмагічны рэалізм — гэта Маркес, прачытаны Кьеркегорам; і патрабуецца скачок веры. Трансмагічны рэалізм вырастаў з «Дзядоў» Міцкевіча і сімвалізму Янкі Купалы, імпрэсій Змітрака Бядулі і рамантызму Караткевіча. Трансміфічны рэалізм — гэта Васіль Быкаў, калі ўзяць адразу «Сотнікава» і «Пахаджанаў». Гэта — асабліва — стогны душы Максіма Гарэцкага і мантажныя прыёмы Алеся Адамовіча ў «Карніках».

Барочная эсэістыка Паўла Севярынца — сучасная трансміфічная публіцыстыка. А калі я чытаў «Сфагнум», не мог паверыць: інтанацыі, вобразы, смех кнігі нагадвалі непастаўленую карціну Андрэя Кудзіненкі «Акавіта» (трагікамічную, казытліва-цнатлівую, трансцэндэнтную). Увогуле, кінажанравыя чыннікі ў літаратуры (кшталту гангстэрскага кіно) і трагікамізм можна лічыць яшчэ адной беларускай адметнасцю новага кірунку. А нядаўна на падыходзе быў трансміфічны «Шляхціц Завальня» Кудзіненкі і Клінава (дзяржава кінапраект замарозіла).

Трансміфічны рэалізм — гэта «Сплочванне доўгу», якое патрабаваў Вацлаў Ластоўскі і «Узвышэнскі» аквітызм у часы абвальнай дыктатуры.

Праз 20 гадоў Незалежнасці ў беларусаў з'яўляецца стыль, які можна прад'явіць свету. «Сфагнум» Марціновіча ўвідавочнівае трансміфічны рэалізм.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 687

Падпісана да друку 14.06.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча